



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

1 верасня 2017 года №35 (1166)




## Сям'ю з трыма дзецьмі хочуць выселіць з дома ў Хажове

старонка 20

Фота Наталлі ТУР.

# У рэпетытараў займаюцца не толькі выпускнікі

**Для старшакласнікаў новы навучальны год нясе яшчэ адну задачу. Трэба ацаніць свае сілы і выбраць, ці зможаш падрыхтавацца да паступлення сам або трэба звяртацца па дапамогу да рэпетытара.**


Фота з архіва "РГ".

Падрыхтавацца да ЦТ, падцягнуць пэўны прадмет ці вывучыць мову для новай працы магчыма і самому. Але толькі калі вы можаце самі добра арганізаваць свой час

Але пачатак восені – добры шанец і для дарослых, якія доўгі час хацелі падцягнуць веды па прадмеце, але адцягвалі.

### Без рэпетытара здаў хімію на "100"

Пра тое, чаго чакаць ад рэпетытараў, мы распыталі **Яўгенію Хацяновіч**, якая тры гады таму паступіла ў медыцынскі каледж пасля маладзечанскай школы. Пасля каледжа дзяўчына паступіла ва ўніверсітэт на завочную форму навучання.

Яўгенія рыхтавалася з рэпетытарам па біялогіі і беларускай мове. Займалася каля 8 месяцаў, па кожным з прадметаў занятак быў раз на тыдзень.

Галоўным плюсам такой падрыхтоўкі лічыць тое, што рэпетытары вельмі даступна тлумачылі інфармацыю, а заняткі праходзілі цікава.

– Гэтых рэпетытараў мне параілі, – удакладняе дзяўчына. – А цана за паслугі была прыкладна аднолькавая. Дакладныя балы па ЦТ нават не памятаю, але галоўнае, што я паступіла. Мяркую, што без іх дапамогі вынік быў бы меншы.

Цяпер Яўгенія працуе ў Мінскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы.

Выпускнік вілейскай гімназіі "Логас" **Ягор Белахвостаў** адназначыў надзвычай высокім вынікам па сённяшнім ЦТ. Па хіміі ён набраў 100 балаў, па біялогіі 99, а па рускай мове 96.

Малады чалавек пачынаў падрыхтоўку з рэпетытарамі, але пасля па хіміі рыхтаваўся самастойна.

На яго думку, рэпетытары новых ведаў не дадаюць, а толькі сістэматызуюць тое, што ёсць. Рыхтавацца самому можна толькі калі ўмееш правільна размеркаваць сілы і час.

### Нельга вучыць мову "для сябе"

Што варта ўлічыць, разглядаючы магчымасць звярнуцца да рэпетытара, мы распыталі **Ірыну Кулік** з Вілейкі, якая займаецца рэпетытарствам па англійскай мове. Яна працуе і са школьнікамі, і з дарослымі.

Галоўнае – каб навучэнец дакладна ставіў перад сабой мэту і быў гатовы працаваць, каб яе дасягнуць. Аднак дарослым звычайна цяжэй арганізаваць самастойную работу, у іх шмат абавязкаў па працы і сям'і. У Ірыны так і склалася, што ў асноўным займаюцца школьнікі, якія хочуць ведаць больш, чым у школьнай праграме, і матэнакіраваныя дарослыя.

Рэпетытар упэўнена, што падрыхтаваць школьніка да ЦТ за тры месяцы немагчыма. Хіба толькі ў выпадку, калі ў вучня высокі ўзровень, і трэба толькі паўтарыць і сістэматызаваць веды.

Дарослыя ж вучаць мову для пошуку працы, з-за пераезду, а часам і проста для самаўдасканалення.

– Варыянт "для сябе" – заўсёды слабае звяно, – падкрэслівае Ірына. – Для кожнага патрэбна матывацыя, гэта ж праца. Спачатку трэба адказаць на пытанне, для чаго ты вучыш мову. Мала хто гатовы працаваць проста так, на ўсялякі выпадак.

Са школьнікамі Ірына працуе цягам навучальнага года, па 2 ці 3 разы на тыдзень. А каб ацаніць прагрэс вучня, выкарыстоўвае разнастайныя тэсты, якія прапануюцца, каб праверыць, наколькі матэрыял засвоіў.

Наконт дамашніх заданняў, то для школьнікаў яны вельмі невялікія, для дарослых пабольш. Галоўнае, каб не было вялікіх перапынкаў у навучанні. Перагружаць заданнямі не трэба, лічыць рэпетытар. Важна займацца хаця б па 15 хвілін, але штодзень, а не выконваць усё за гадзіну за адзін раз.

### За паўгода вывучыў мову і ўладкаваўся на працу мары

Ірына удакладняе, што галоўнае, чым дапамагае рэпетытар – бачыць моцныя і слабыя бакі вучня, можа дапамагчы задаць правільны накірунак. Але вывучыць за вучня ці прымусіць яго, вядома, немагчыма. Жанчына пагаджаецца з меркаваннем Ягора – падрыхтавацца да ЦТ можна і самастойна, але пры ўменні арганізаваць сябе і шмат працаваць.

**Варта знайсці ў працэсе навучання прыемныя і цікавыя моманты, радавацца нават самаму маленькаму дасягненню.**

Нядаўна Ірына разам з вучнямі асвоіла дыстанцыйнае навучанне па інтэрнэту праз скайп. Аднак, на яе думку, такі варыянт падыходзіць толькі дарослым і старшакласнікам.

Ірына не працуе паралельна ў школе, займаецца толькі рэпетытарствам. Ганарыцца поспехамі вучняў. 11-класнік прыйшоў да рэпетытара са слабай "5" па англійскай, школьны экзамен здаў на "10".

Малады чалавек прайшоў тэсты, арганізаваныя IT-кампаніяй і кваліфікаваўся на ўзровень b2, што адпавядае практычна свабоднаму валоданню пісьмовай і вуснай англійскай мовай. Некаторы фундамент у яго ўжо быў, займаліся каля паўгода.

– Чалавек паставіў мэту, а я крыху дапамагла, – усміхаецца Ірына.

Які б шлях вы не абралі, галоўнае дакладна сфармуляваць мэту і выбраць той шлях для дасягнення, у які найбольш верыце менавіта вы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.08 | 31.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9319 | **1,9335** |
| Еўра | 2,2733 | **2,3108** |
| Злоты, 10 | 5,3157 | **5,4184** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2677 | **3,2932** |
| Грыўня, 100 | 7,5528 | **7,5542** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **23.08** | **30.08** |
| Еўра | 2.2600/2.2800 | 2.2900/2.3200 |
| Долар ЗША | 1.9200/1.9400 | 1.9200/1.9380 |

## ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 23.08 | 30.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,95 | **6,98** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,85 | **3,80** |
| Селядзец, 1 кг | 3,60 | **3,60** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 11,00 | **14,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,30** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,10** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,85** |
| Часнок, 1 кг | 5,95 | **5,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,60 | **-** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,79** |
| Кабачкі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,90 | **3,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,00 | **2,95** |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | **1,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 1,40 | **1,20** |
| Перац, 1 кг | 1,50 | **1,39** |
| Кавун, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **3,49** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 4,90 | **4,95** |
| Персікі, 1 кг | 2,69 | **2,99** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Слівы, 1 кг | - | **2,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,80 | **1,49** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **4,95** |
| Баклажаны, 1 кг | - | **1,99** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **1,95** |
| Грушы, 1 кг | 4,50 | **3,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,40** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **7,00** |

# Чаму мак варта купляць у краме і што рабіць, калі знайшоў мабільнік

## Першы намеснік начальніка Вілейскага РАУС распавёў аб працы міліцыі

ВІЛЕЙКА

**Чаму мак для печыва трэба купляць у краме? Як сябе паводзіць, калі знайшоў чужы мабільнік? І чым служба ў міліцыі 20-гадовай даўніны адрозніваецца ад службы сённяшняй?**

На гэтыя і іншыя пытанні адказаў першы намеснік начальніка Вілейскага РАУС, начальнік крымінальнай міліцыі, падпалкоўнік **Аляксандр Лыско**.

### Крадзяжы – асноўная бяда

Усе забойствы, згвалтаванні, злачынствы, у выніку якіх памірае чалавек, сёлета ў РАУС раскрылі.

І ўвогуле, па словах Аляксандра Лыско, які працуе ў Вілейцы ад 2005 года, за ўвесь гэты час нераскрытых злачынстваў супраць асобы няма.

Доўгі час "вісела" згвалтаванне жыхаркі Вілейшчыны. Аднак праз тры гады яго раскрылі, затрымалі вінаватага, які з'язджаў у іншую краіну .

– Асноўная наша бяда – крадзяжы, – кажа начальнік крымінальнай міліцыі.

За сем месяцаў бягучага года іх здзейснілі 131 – больш за 60 % ад усіх злачынстваў. Па словах Аляксандра Мікалаевіча, калі крадуць з жытла, то амаль 70% крадзяжоў злачынцы здзяйсняюць, свабодна трапіўшы ў кватэру, дом або лецішча.

Якія рэчы ў топе крадзяжоў? Ровары, мабільныя тэлефоны, розная сельскагаспадарчая тэхніка. Напрыклад, гаспадар, скасіўшы траву, кідае дарагі трымер у незачыненым хляве. А пасля не знаходзіць яго.

### Набыць замок для хлява і для ровара

– Здзіўляе, што часам людзі зусім не клапоцяцца пра дарагую маёмасць, кідаюць рэчы абы-дзе. А як заўважаць, што знікла, адразу бягуць да нас пісаць заяву, – узрушаецца Аляксандр Лыско.

На яго думку, лепш аддаць невялікія грошы за добры замок, чым пазбавіцца патрэбных рэчаў, якія каштуюць куды даражэй.

Варта паклапаціцца і пра замок для ровара. Напрыклад, у пачатку тыдня жанчына з вёскі Асавец паехала ў грыбы. У лесе ровар паставіла ля дрэва, не замкнуўшы. А сама адышла кіламетры на два. Калі вярнулася з грыбамі, сваю рэч не знайшла.

– Хутчэй за ўсё, ровар мы знойдзем, – мяркуе Аляксандр Мікалаевіч. – Недзе ў той мясцовасці ён "усплыве". Не з Мінску ж яго красці прыязджалі. Аднак, калі б гаспадыня замкнула ровар, яго б не скралі.

А ў Даўгінава таксама здарыўся кур'ёзны выпадак. Мясцовая жыхарка прыехала ў вясковы магазін, набыла там бутэльку віна. Пайшла да знаёмых, дзе піла тры дні. І толькі праз гэты час успомніла, што ровар ля магазіна пакінула.

**Злачынствы за студзень-люты 2017 на Вілейшчыне**



Усяго – 197 злачынстваў



Цяжкіх і асабліва цяжкіх – 11. З іх пакуль не раскрытае адно.



Крадзяжоў 131. З іх большую палову злачынцы здзяйсняюць, свабодна трапіўшы ў кватэру.



119 злачынстваў раскрыта. Раскрываемасць – больш за 60%

### Чалавека, які прынёс тэлефон, мусім разглядаць як патэнцыйнага злодзея

Асаблівая тэма і галаўны боль для супрацоўнікаў вілейскай міліцыі – мабільныя тэлефоны. Некаторыя гаспадары самі губляюць іх недзе, а потым пішуць заяву, што тэлефон скралі.

Неяк малады чалавек паведаміў пра крадзеж тэлефона ў адным з вілейскіх бараў. Супрацоўнікі міліцыі прыехалі ў той бар.

На відэа з камер назірання ўбачылі, што хлопец быў вельмі п'яны. Пасля высветлілі, што ў такім стане ён не памятаў, дзе ў той вечар кінуў мабільнік.

– Мы просім людзей, якія пішуць заявы пра крадзеж тэлефона, пісаць праўду, – звяртае ўвагу начальнік крымінальнай міліцыі. – І калі чалавек сам не памятае, дзе кінуў тэлефон, не варта прыдумляць нейкі крадзеж.

А то пасля можа здарыцца, што "пацярпелы" напіша заяву пра скрадзены тэлефон, сумленны грамадзянін прынясе гэты тэлефон у міліцыю, а яго пры ўстанаўленні асобы злачынцы будуць разглядаць як патэнцыйнага злодзея, які прысабечыў чужую рэч.

Калі ж з чужога мабільнага тэлефона будуць тэлефанаваць па сваіх справах на розныя іншыя нумары (а гэта ўбачаць па раздрукоўцы), чалавек, які выкарастоўваў чужы мабільнік для сваіх патрэб, заплаціць штраф у адпаведнасці з пунктам 10.6 адміністрацыйнага кодэкса.

Як жа паводзіць сябе таму, хто знайшоў чужы мабільнік?

Калі знаходка трапілася ў адміністрацыйным будынку, лепш аддаць камусьці з адміністратараў. Можна аднесці кіраўніку гаспадаркі, у сельсавет. Можна – у міліцыю, дзе ведаюць, што рабіць са згубленымі рэчамі.

### Такі небяспечны мак

Са з'яўленнем інтэрнэта стала лягчэй прадаваць распаўсюджвальнікам наркотыкаў. Спісваючыся ў анлайне з пакупнікамі, за пералічаныя грошы яны называюць адрас, дзе закладзена небяспечнае рэчыва. Прадаўцу і пакупніку нават не трэба сустракацца. Супрацоўнікі міліцыі манітораць інтэрнэт і адшукваюць такіх прадаўцоў.

Цяпер па краіне праводзяць аперацыю "Мак", каб па максімуму канфіскаваць небяспечную расліну. З пачатку года склалі 12 пратаколаў.

– Любому чалавеку, на двары якога спецыяльна вырошчваецца мак, пагражае адміністрацыйная адказнасць, – расказаў Аляксандр Лыско.

Штраф за вырошчванне маку, паводле адміністрацыйнага кодэксу, складае каля 460 рублёў.

Калі ж міліцыі стане вядома, што мак вырошчваюць для таго, каб прадаць ці памяняць, адказнасць будзе ўжо крымінальнай.

**– А як жа булачкі з макам?** – не магла не запытацца я.

– А на булачкі хай купляюць мак у магазіне, – адказаў Аляксандр Лыско.

Аднак, калі куст мака расце ў бур'яне на двары ў бабулі, і бачна, што яго не вырошчваюць і не даглядаюць спецыяльна, канешне ж, штрафу не дадуць. Абмяжуюцца гутаркай.

### Жнівень – час уборачнай, верасень – час махляроў

Жнівень – час, калі міліцыя асабліва сочыць за тым, як адбываецца ўборачная. На Вілейшчыне за апошні месяц лета зарэгістравалі пяць дробных крадзяжоў.

Крадуць збожжа і бульбу з калгасных палёў. Штрафы за такія злачынствы не маленькія.

Таму, звяртае ўвагу Аляксандр Мікалаевіч, лепш набыць мяшок бульбы за невялікія грошы, чым плаціць больш у некалькі разоў.

Калі жнівень – час ураджаю, то ад верасня – пачынаецца час махляроў, якія ходзяць па вясковых хатах, просяць вады, прапануюць набыць пледы, пытаюцца, ці можна купіць бульбы.

Насамрэч усё гэта робіцца з мэтай адцягнуць увагу гаспадара. У той час пакуль адзін гутарыць, другі выносіць з дому грошы і каштоўныя рэчы.

А старыя людзі, па назіраннях Аляксандра Лыско, грошы хаваюць у адных і тых жа месцах.

### Міліцыі варта паспяваць за злачынцамі

На сённяшні дзень, па словах начальніка крымінальнай міліцыі, калектыў вілейскага крымінальнага вышуку малады.

Сёлета пяць чалавек прыйшло адразу пасля ВНУ. Своеасаблівы "касцяк" – тыя, хто працуе не першы год – **Уладзімір Мароз, Дзмітры Антановіч, Кацярына Курэц, Віталь Паслед.**

**– Як змянілася сённяшняя міліцыя ў параўнанні з міліцыяй дваццацігадовай даўніны?** – пытаюся ў свайго субяседніка.

– Канешне, міліцыя стала больш мабільнай, забяспечанай сучаснымі тэхналогіямі, – распавёў Аляксандр Лыско. – Раней, каб даведацца звесткі пра чалавека, трэба было запыт у Мінск дасылаць, а цяпер усё пад рукой.

Аднак і злачынцы становяцца больш адукаванымі, мабільнымі, вынаходлівымі. А міліцыі нельга адставаць, перакананы Аляксандр Лыско.

Аксана ЯРАШОНАК.

НАВІНЫ

## Трапілі ў шторм на Вілейскім вадасховішчы

ВІЛЕЙКА

Некалькі дзён больш за дзесяць сталічных турыстаў адпачывалі на востраве ў Вілейскім вадасховішчы недалёка ад вёскі Сосенка.

На востраў перапраўляліся на аднамеснай лодцы па адным чалавеку з неабходнымі рэчамі.

Калі 24 жніўня хацелі такім жа чынам трапіць з вострава на бераг, пачаўся шторм.

Лодку кідала ў розныя бакі, таму самастойна турысты не змаглі перапраўіцца на бераг. Каля сямі раніцы выклікалі выратавальнікаў.

Тыя ўсіх перапраўілі на бераг. Ніхто не пацярпеў, распавялі ў вілейскай выратавальнай станцыі.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Каменчыкі на дарозе разбіваюць шыбы ў аўто

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскія вадзіцелі б'юць трывогу. За Дзікшнянамі робяць рамонт дарогі, дарожнікі пасыпалі асфальт дробнымі каменьчыкамі, а пакутуюць кіроўцы.

Да нас у рэдакцыю звярнуўся **Віктар Мароз**, адзін з такіх пацярпелых вадзіцеляў.

Паколькі мужчыны не плачуць, ён проста прынёс фотаздымкі лабавога шкла свайго аўтамабіля.

– Я ведаю, што нікому не паскарджуся, што гэта страхавы выпадак толькі для таго, у каго ёсць КАСКО, але я проста хачу перадаць прывітанне таму, хто ігнаруе знакі і носіцца на тым участку дарогі з хуткасцю 120 кіламетраў у гадзіну.

Па каментар мы звярнуліся да дзяржаўтаінспектара Маладзечанскай ДАІ **Сяргея Бартошы:**

– Там устаноўленыя адпаведныя дарожныя знакі, а тое што некаторыя кіроўцы не выконваюць іх патрабаванне – няхай пабітыя шыбы будуць на іх сумленні. Калі-небудзь і ім так пашанцуе з дакладнасцю, ды наадварот ...

Віктар на гэта адказвае:

– Я цяпер проста не прапускаю наперад таго, хто хоча абагнаць. Займаю левую паласу і еду сабе з дазволенай хуткасцю 60 кіламетраў у гадзіну. І чакаю, калі ж той, хто разбіў мне шыбу, трапіць у такую ж сітуцыю, гад.

Наталля ТУР.

# Почырказнаўцы дазнаюцца і пра тое, хто на плоце напісаў непрыстойнае слова

МАЛАДЗЕЧНА

**Судовыя эксперты – гэта асаблівыя людзі ва ўсёй структуры праваахоўчай сістэмы.**

Па меншай меры так здаецца звонку. Лічыце самі: гэтыя людзі могуць вылічыць, як даўно стралялі з той ці іншай зброі, хто пакінуў сляды на месцы злачынства, каму належаць адбіткі пальцаў.

А яшчэ вылічыць чалавека па почырку.

Як гэта адбываецца, мы запыталіся ў эксперта-почыркаведа **Дзмітрыя Пятрова**.

Праца почыркаведа падобна да працы ювеліра. На працоўным стале эксперта лісты паперы, павелічальнае шкло і, калі спатрэбіцца, мікраскоп.

Часцей за ўсё, расказвае Дзмітры, працаваць даводзіцца з дакументамі, завяшчаннямі і перадсмяротнымі запіскамі самазабойцаў.

Дзмітры расказвае, што яго праца як эксперта заключаецца ў тым, каб высветліць, ці сапраўды гэты чалавек пакінуў запіску.

**– Праца пачынаецца з таго, што бярэцца запіска, на стале раскладваюцца чыстыя лісты паперы, на якія выпісваецца алфавіт.**

Усе варыянты літар, што ёсць у запісцы, старанна запісваюцца ў слупок, затым запісваюцца варыянты звязкі літар, потым ацэньваюцца асаблівасці пісьма. Напрыклад, калі чалавек абводзіць адну літару па некалькі разоў, або падкрэслівае, таксама піша больш размашыста, чым звычайна, сведчыць пра тое, што чалавек быў у вельмі узрушаным стане, хваляваўся. Або быў пад уздзеяннем алкаголю.

Эксперты расказваюць, што па адной запісцы немагчыма высветліць асобу пісаўшага яе. Каб правесці дасканалы аналіз, экспертам патрэбны іншы ўзор почырка. Тады выклікаецца чалавек, які, верагодна, пісаў запіску. Яго просяць напісаць нейкі тэкст у нязвыклых умовах: стоячы, на вертыкальнай паверхні, на калене.

– А калі чалавек ужо не можа нічога напісаць, мы даем следчым заданне знайсці яшчэ дзе-небудзь узоры почырка гэтага чалавека.

У судовых экспертаў быў выпадак, калі чалавек, што пакінуў перадсмяротную запіску, нагул больш нічога ад рукі не пісаў.

**І толькі нейкім таямнічым чынам следчыя знайшлі ўзор яго почырку ў царкве, дзе ён падаваў запіску аб спачыне.**

– Параўнаўшы гэтыя дзве запіскі, можна было прыйсці да высновы, што іх напісаў адзін і той жа чалавек. Толькі почырк на перадсмяротнай запісцы быў няроўны, з моцным націскам, што сведчыла пра тое, што чалавек моцна хваляваўся ў момант, калі яе пісаў.

Больш мірныя справы судовых экспертаў-почыркаведаў – гэта праца з падробкай подпісаў на нейкіх дакументах.

– Ваш подпіс на дакументах – гэта ваша асабістая засцярога ад падробак. Таму подпіс павінен быць больш складаны, чым проста крыжык. Кожны завіток почырка – гэта ступень абароны. Чалавек, які захоча паўтарыць ваш подпіс, абавязкова "праколецца". Ён можа запаволіць рух асадкі, калі будзе выводзіць завіток, можа не дацягнуць самую вышэйшую кропку вашага подпісу. Нават калі подпіс будзе адзін у адзін, то і не пастаўленая кропка, або размяшчэнне подпісу на радку, будзе сведчыць пра тое, што подпіс падроблены.

Эксперты не толькі па літарах могуць вызначыць, каму належыць почырк. У карпатлівай працы почыркаведа важна ўсё: чырвоны радок і яго адсутнасць, выходзіць тэкст за палі ці не, як размяшчаюцца радкі і многае іншае.

– Таксама ў почыркаведаў ёсць такое паняцце, як выпрацаванасць почырка. Яна бывае нізкая, сярэдняя і высокая. Выпрацаванасць залежыць ад таго, ці многа чалавек піша ад рукі. Чым больш ён піша, тым большая выпрацаванасць. Нізка выпрацаваны почырк вельмі падобны да ўзораў ў прапісах першакласнікаў.

– То бок, калі хочаш падмануць эксперта, дастаткова пісаць як курыца лапай ці проста друкаванымі літарамі?

– Не. Бо і ў гэтым выпадку эксперт зможа выкрыць чалавека па пісьму. Быў у нас выпадак, калі даводзілася ўсталёўваць асобу таго, хто напісаў некалькі непрыстойных словаў на сцяне.

У адной са школ раёна на сцяне напісалі, што дырэктар, мякка кажучы, нехарошы чалавек. Экспертам давялося выязджаць на месца, разбірацца ў гэтым.

Таксама эксперты-почыркаведы працавалі і тады, калі ішло расследаванне нашумелай справы пра мініраванне школ.

– Але ж там, наколькі вядома, лісты былі надрукаваныя, а не напісаныя ад рукі?

– Так. А вы думаеце, што эксперт –почыркавед не даведаецца, хто аўтар тэксту, калі ён надрукаваны? Почыркаведы праводзяць цэлы комплекс дзеянняў. Калі не дастаткова ўзору почырка, эксперты могуць на лісце паперы знайсці адбіткі пальцаў, нейкі пах або геном, які можа дапамагчы выявіць асобу.

**У апошнія гады смс-паведамленні, паведамленні ў сацыяльных сетках вельмі папулярныя аб'екты даследванняў.**

Падштурхнуць да думкі, што пісаў менавіта гэты чалавек можна па тым, як ён ставіць знакі прыпынку, у якіх месцах ставіць прабелы, якія словы скарачае, якія выкарыстоўвае слэнгавыя словы.

Дарэчы, эксперты-почыркаведы могуць аказваць платныя паслугі насельніцтву.

Да экспертаў можна звярнуцца ў спрэчных выпадках, калі, напрыклад, ваш бізнэс-партнёр сцвярджае, што подпіс на дакуменце ён не ставіў, або вы знайшлі рукапіс вашага дзядуліпісьменніка, а не ўпэўненыя, што гэта яго аўтограф.

– Таксама да нас звяртаюцца валанцёры з пошукавых клубаў, калі па медальёне часоў Другой Сусветнай трэба высветліць каму ён належыў.

А вось псіхалагічны партрэт таго, хто напісаў той ці іншы тэкст, эксперты скласці не могуць.

– Не тое, каб зусім не маглі, проста гэта не ўваходзіць у нашыя абавязкі. І роздум пра тое, што за чалавек быў той, хто напісаў тэкст,можа адцягваць увагу ад таго, што больш важна. Таму псіхалагічны партрэт мы пакінем экспертам-графолагам. А мы можам высветліць, якога полу, узросту быў чалавек ну і іншыя падрабязнасці.

– А не на рабоце вы выкарыстоўваеце сваё ўменне разгадваць почырк?

– Калі вы маеце на ўвазе, ці магу я даведацца, што сын падрабіў подпіс класнага кіраўніка, то магу. Толькі сын наўрад ці будзе гэтым займацца. Ён ведае, кім працуе яго тата.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**



Дзмітры Пятроў расказвае, што праца почырказнаўцы вельмі дасканалая. На высвятленне таго, каму належыць почырк, можа прайсці месяц.



Дзмітры Пятроў за працай.

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.
- Трактар самаробны, дызель, мост пярэдні Т-16. Т. (8-029) 3865672.
- Трактар самаробны. Т. (8-029) 6237550.*
- Трактар Т-40, навяснoе, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*
- Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*
- Трактар, сані, павозка на драўляным хаду. Цана дагаворная. Т. (8-029) 8730880.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДК! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Бараніна жывой вагой – 4,5 руб, мясам – 8,5 руб. Т. (8-029) 6769359. Віталь.

**Іншае**

- Бульба буйная і дробная. Дастаўка. Т. (8-029) 1447014.*
- Бочкі 200 л з-пад масла, б/у, метал, дзве пробкі, 20 руб. Т. (8-033) 3133711.*

**КУПЛЮ**

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Антыкварыят**

- Антыкварыят, статуэткі, гадзіннікі, грамафоны, карціны, мэблю і іншыя старажытныя рэчы. Т. МТС (8-033) 9030854, Вэлком (8-029) 1447482.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.*
- Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі ласся, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

**ПРАЦА**

**ШУКАЮ РАБОТУ**

- Шукаю працу печніка.Т. (8-025) 6035930.*
- Выканаем усе віды будаўнічых работ. Т. (8-029) 8521268, (8-044) 7556706.











# У Маркаве зладзілі паэтычны пленэр, прысвечаны памяці Таццяны Сапач

МАЛАДЗЕЧНА

**Яна любіла жартаваць на тэмы смерці і старасці. Магла зрабіць так, каб у вялікай кампаніі кожны адчуваў сябе ўтульна.**

Шмат пра паэтку і журналістку **Таццяну Сапач** даведаліся ўдзельнікі сёлетняга чатырохдзённага паэтычнага пленэру ў вёсцы Маркава на Маладзечаншчыне.

Літаратурныя чытанні, вечары памяці штогод пасля трагічнай смерці Таццяны Сапач ладзяць родныя на яе радзіме, у яе роднай хаце. Запрашаюць сяброў, літаратараў, краязнаўцаў.

А сёлета ўпершыню памятныя мерапрыемствы правялі ў выглядзе паэтычнага пленэру. Дачка Таццяны **Адэля** прыехала з Кіева на радзіму маці, каб сабраць тут маладых паэтаў.

– Форму пленэру мне параіла сяброўка, якая вучыцца ў Амерыцы на магістра мастацкіх навук, – распавяла Адэля.

Па словах жанчыны, сяброўка вучылася на пісьменніцу, але чаго толькі ні рабіла: і дакументальныя фільмы здымала, і краязнаўствам займалася. Частай формай працы будучых магістраў былі паэтычныя пленэры.

## Прайшліся шляхамі Таццяны Сапач

Маладых літаратараў Адэля запрасіла да ўдзелу праз сацыяльныя сеткі. Адгукнулася шэсць чалавек. Самыя далёкія госці былі з Гомеля і Рагачова. Напрацягу чатырох дзён хтосьці з'язджаў, хтосьці далучаўся.

Першы дзень пачаўся са знаёмства. Пасля была сустрэча з **Міхасём Казлоўскім** – краязнаўцам і пісьменнікам з Маладзечна, які добра ведаў Таццяну Сапач, і мясцовымі краязнаўцамі.

Удзельнікі даведаліся пра гісторыю вёскі Маркава і рэчку Гадзяя, якая працякае ў вёсцы недалёка ад роднай хаты пісьменніцы.

Па словах краязнаўцы, няма легенды, якая б тлумачыла назву ракі. Таму паэты атрымалі заданне – напісаць вершаванае паданне пра раку Гадзяю, каб яе чыталі сённяшнія маркаўскія школьнікі.

Удзельнікі наведалі знакавыя мясціны рэгіёна: Залессе, Крэва, Гальшаны. Можна сказаць, што маладыя паэты прайшліся шляхам Таццяны Сапач.

Па словах Адэлі ў 1980-ыя гады яе бацькі, Таццяна Сапач і журналіст **Сяргей Дубавец**, прыязджалі ў Маркава разам са сваімі сябрамі – літаратарамі, журналістамі, навукоўцамі, краязнаўцамі і пешшу ішлі ў Крэва або Залессе. Прычым часцей такія падарожжы ладзіліся зімой, падчас Калядаў.

Маладыя паэты дваццаць кіламетраў пешшу адолець не рашыліся, падарожнічалі на машыне. У Залессі наведалі палац і парк **Міхала Клеафаса Агінскага**. А пасля трапілі ў госці да рэстаўратара, мастака і музыкі, жыхара Залесся **Сяргея Верамейчыка.**

## Як паэты шукалі бельведэр

У свой час Сяргей Іванавіч з'ехаў з Мінска ў вёску на Смаргоншчыне, каб захаваць тут памяць пра славутага дыпламата і кампазітара. З вучняў залескай школы стварыў гурт "Альтанка", які доўгі час займаўся спевамі і пастаноўкай п'ес, прысвечаных Агінскаму.

Праз "Альтанку" прайшлі чатыры пакаленні дзяцей. Гурт залескіх вучняў ведалі ў Польшчы, Літве, Італіі.

Разам з Сяргеем Іванавічам удзельнікі пленэру шукалі ў парку бельведэр – гару, з якой адкрываецца найпрыгажэйшы краявід.

"Пошукі бельведэра" – своеасаблівая экскурсія, распрацаваная Верамейчыкам па паэме "Залессе" пісьменніка 19 стагоддзя **Аляксандра Ходзькі.**

Нягледзячы на пастаянны дождж удзельнікі пленэру адшукалі бельведэр, на якім разгарнулі герб Агінскіх – браму з рассечаным крыжам наверсе.

Сяргей Іванавіч таксама не пакінуў маладых літаратараў без творчага задання. Прапанаваў напісаць вершаваны адказ Аляксандру Ходзьку пра тое, што б ён убачыў у Залессі сёння.

## Развейце тут мой прах

Усе мерапрыемствы пленэру былі прасякнутыя ўспамінамі пра паэтку Таццяну Сапач. Яе згадвалі родныя, калегі і сябры.

– Мама для мяне была падобная да сонейка, – распавяла Адэля. – Невысокая, кругленькая, усмешлівая, яна магла сабраць вялікую кампанію, чалавек 20-25, і зрабіць так, каб кожнаму было цёпла і ўтульна.

Па словах Адэлі, мама ніколі сур'ёзна не ўспрымала такія з'явы, як смерць і старасць. Родныя прывыклі да яе дзіўных жартаў.



Рэстаўратар і экскурсавод Сяргей Верамейчык і журналістка, дачка Таццяны Сапач Адэля Дубавец у зале залескага палаца.



Удзельнікі пленэру зацікавіліся рэстаўрацыйнымі малюнкамі Сяргея Верамейчыка. Паэтка і журналістка Ніна Лісота адразу пазнала столь у Мірскім замку.



Паэтка Наста Кудасава прымярае капялюш-альтанку – выраб Сяргея Верамейчыка.

**– Як толькі ў час нашых сямейных падарожжаў мама бачыла нейкае прыгожае месца, яна казала з усмешкай: "Калі памру, развейце тут мой прах", – прыгадала Адэля.**

Былі такія месцы і пад Вільняй, і ля беларускіх вёсак. Дачка памятае тры мясціны. Муж удвая больш. Апошнім месцам, дзе Таццяна так звыкла пажартавала, быў луг побач з вёскай Мілідаўшчына, недалёка ад роднага Маркава. Тут у 2010 годзе родныя развеялі яе прах.

## А восень нас не пакідала

Бард і настаўніца з Гомеля **Вальжына Цярэшчанка** прыгадала "сваю" Таццяну Сапач – спачатку проста журналістку, якая брала ў яе інтэрв'ю, а пазней – шчырую сяброўку.

– На гомельскім тэлебачанні запісвалі, як я з дзяўчатамі з музвучылішча спявала беларускія песні, – прыгадала Вальжына. – У перапынку да мяне падышла журналістка і пачала задаваць пытанні на прыгожай беларускай мове.

Маладая спявачка тады размаўляла выключна па-руску, адпаведна па-руску пачала і адказваць. Аднак журналістка гомельскага тэлебачання, якой аказалася Таццяна Сапач, перапыніла яе фразай "Волечка, вы ж па-беларуску спяваеце, адказвайце па-беларуску".

– Я спрабавала нешта сказаць, але зразумела, што можна спяваць па-беларуску, а мовы, па сутнасці не ведаць, – кажа Вольга.

Пасля таго даўняга інтэрв'ю жанчына павярнулася да беларускасці. І ўжо шмат гадоў па-беларуску і спявае, і размаўляе.

Абавязковую частку паэтычнага пленэру – разбор вершаў маладых паэтаў – праводзіў журналіст Сяргей Дубавец. Былі тут і крытычныя водгукі, і практычныя парады, а часам творчыя спрэчкі.

З чатырох дзён больш за палову ўсяго часу на вуліцы ішоў моцны, павосеньску халодны дождж. Такое надвор'е вельмі пасавала творчаму настрою і міжволі згадвʼліся радкі верша Таццяны "Няхай не пакіне нас восень..."

Фота аўтара.




Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)


**Даведка "РГ".** Таццяна Сапач нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Маркава на Маладзечаншчыне. Скончылафакультэт журналістыкі . Падчас паступлення ва ўнівэрсітэт далучылася да руху за незалежнасць. Разам з мужам Сяргеем Дубаўцом, прыехаўшы працаваць па размеркаванні ў Гомель, стварылі маладзевую грамадска-палітычную краязнаўчую суполку "Талака". У пачатку 1990-ых пераехала ў Вільню, каб аднавіць віленскі беларускі асяродак. Там працавала на літоўскім радыё. Аўтарка паэтычных зборнікаў "Восень" і "Няхай не пакіне нас восень". Загінула ў снежні 2010 года ў аўтакатастрофе ў Літве.

# У аддзеле архітэктуры копія Крэўскага замка праходзіць як тэраса

СМАРГОНЬ

**“Менск – 112 кіламетраў. Вільня – 82 кіламетры” – такі незвычайны драўляны ўказальнік стаіць ля аднаго з двароў у вёсцы Чухны на Смаргоншчыне.**

Жыве тут майстар **Сяргей Бандарэнка** – ён і каваль, і разьбяр, і ганчар. А ў лютым 2016 года прыйшла ідэя ўсе свае ўменні ўвасобіць у пабудове копіі Крэўскага замка.

Маленькі замак, маштабам адзін да дзесяці, Сяргей вырашыў пабудаваць на ўласным падворку. Узнікла пытанне: як запісаць будучы будынак у дакументах у аддзеле архітэктуры Смаргоні.



Кутнюю вежу замка Сяргей Бандарэнка ўжо зрабіў і абклаў цэглай. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Не пісаць жа “замак”. Але знайшлі выйсце. І тое, што праз год-другі паўстане ў Сяргея ў двары, па дакументах будзе называцца тэрасай.**

Грошы на будаўніцтва мужчына паспрабаваў сабраць на адной з інтэрнэт-пляцовак.

Праўда, кажа, наступленне сродкаў ад дабрачынцаў прыпынілася. Але ад ідэі не адмовіўся і стаў працаваць за ўласныя сродкі.

### Будаўніцтва замка стала сямейнай справай

Да справы далучылася ўся сям’я. Мастацкім талентам Бандарэнкі надзеленыя ўсе.

Сяргей, яго жонка **Марына,** дочкі **Настасся** і **Аксана** ствараюць сувеніры, упрыгажэнні.

**Посуд з гліны Сяргей вырабляе ўручную, без ганчарнага круга.**

У Настасіі вышэйшая мастацкая адукацыя. Аксана пакуль шукае сябе.

Марына Бандарэнка прадае творы ля руінаў Крэўскага замка. На грошы, атрыманыя ад гандлю, жыве сям’я і будуецца замак.

– Спачатку было дастаткова толькі ў выхадныя гандляваць, – дзеліцца Марына. – Цяпер мушу стаяць кожны дзень.

Кожны турыст, які набудзе магніт, упрыгажэнне, каваны выраб або гліняную фігурку, робіць свой унёсак у будаўніцтва копіі Крэўскага замка.

Па словах Марыны, турысты прыязджаюць часта, але сувеніры набываюць не заўсёды.

Стоячы тут амаль кожны дзень, Марына не толькі гандлюе сувенірамі.

Шмат цікавых гістарычных звестак яна можа распавесці турыстам пра замак і Крэва, пра князёў **Вітаўта** і **Кейстута**.

Параіць, што акрамя замка, варта схадзіць да старога будынку сінагогі і падняцца на Юраву гару, дзе было старажытнае паганскае капішча.

### Цаглінкі для замка меншыя за запалкавую каробку

Усе сувеніры, што прадае Марына, выраблены з гліны, з якой у 14 стагоддзі ўзводзіўся Крэўскі замак. Кар’ер месціцца побач.

Менавіта з гэтай гліны робіць цэглу, каб абкладаць свой маленькі замак, і Сяргей Бандарэнка.

Дакладней будзе сказаць, не цэглу, а цаглінкі.

Бо маштаб адзін да дзесяці датычыцца не толькі самога замка, а і цэглы таксама. Кожная з цаглінак – памерам прыкладна як палова запалкавай каробкі.

А для таго, каб падрыхтаваць пляцоўку для будаўніцтва, спатрэбілася прывесць на двор сем самазвалаў пяску.

На якой стадыі будаўніцтва замка сёння?

Кутняя вежа цалкам гатовая, абкладзеная цэглай, накрытая дахам.

У вокны праведзеныя правады, каб падсвечваць замак знутры.

Праўда дах, па словах майстра, у сапраўдным замку быў драўляны.

А Сяргей, жадаючы зрабіць сваю пабудову больш даўгавечнай, дах зрабіў з цэменту.

Ад арэгіналу адрозніваецца і кладка цэглы. Першапачаткова майстар спрабаваў тагачасную балцкую кладку, калі ў пэўнай паслядоўнасці некалькі цаглін клаліся гарызантальна, а адна вертыкальна.

Паколькі так працаваць вельмі марудна, Сяргей адмовіўся ад гэтага. Але ў некаторых месцах вежы балцкая кладка вытрымана.

### Замак будуецца не хутка, бо працую адзін

Для ўсяго замка ўжо заліты падмурак. Пачынаецца будаўніцтва другой вежы.

Калі замак будзе гатовы цалкам, творца пакуль сказаць не можа. Праўда, ужо вядома, што будзе за яго сценамі. Пабудуюць маленькія хаткі, паставяць вазы, рыцараў.

**– Рабіў ужо некалькі рыцараў для таго, каб паставіць за сценамі замка, але ўсе яны неяк хутка прадаюцца, – дзеліцца Сяргей.**

Для таго каб наведвальнікі змаглі зайсці на тэрыторыю замка, хутчэй за ўсё, зробяць зручны ўваход.

– Цяпер пра мяне асабліва не пішуць, – распавядае майстар з Чухноў. – Шмат матэрыялаў у прэсе было, як толькі пачаў будоўлю. Працую адзін, таму справа ідзе павольна. Вось журналістам асабліва і няма пра што пісаць.

Аксана ЯРАШОНАК.

НАВІНЫ

## Палякі правядуць эксгумацыю жаўнераў, пахаваных ля вёскі Пагост

ВІЛЕЙКА

Беларусь дала дазвол польскаму Інстытуту нацыянальнай памяці на пошукавыя работы ля вёскі Пагост, што ў Вілейскім раёне. Даследчыя работы пачнуцца 4 верасня з удзелам беларускага 52-га спецыялізаванага пошукавага батальёна і маюць завяршыцца цягам верасня.

Плануюць адшукаць парэшткі жаўнераў польскага Корпусу аховы памежжа (КАП), палеглых 17 верасня 1939 года, калі савецкія войскі ўвайшлі ў Заходнюю Беларусь. Польскія даследчыкі не ведаюць дакладна, ці жаўнеры са стражніцы ў раёне Пагоста загінулі ў баях з савецкімі войскам, ці былі расстраляныя ў палоне.

Яшчэ год таму беларуская пракуратура не дала дазвол на правядзенне даследаванняў на сучасным памежжы – там, дзе могуць быць пахаваныя ахвяры "аўгустоўскай аблавы" пад Сувалкамі летам 1945 года, калі савецкія войскі і польская тайная паліцыя затрымала каля 600 падпольшчыкаў.

Дазвол палякам на раскопкі ў Беларусі – не ўнікальны выпадак, кажа Свабодзе гісторык **Ігар Мельнікаў.** Але не часты: Мельнікаў гаворыць, што апошні раз падобныя раскопкі праводзілі ў 2008 годзе ў Кобрыне.

– Але ад 2008 года такіх работ не адбывалася на тэрыторыі Беларусі, – кажа Мельнікаў. – Таму гэта сапраўды добрая навіна для гісторыкаў і даследчыкаў. Я так думаю, дазволяць нават зрабіць дакументальны фільм, ёсць такія прапановы з боку беларускіх дакументалістаў.

Насамрэч, там ідэнтыфікаванае месца пахавання КАПаўцаў ля стражніцы Пагоста, але такіх месцаў было досыць шмат – амаль на кожнай КАПаўскай стражніцы былі досыць крывавыя баі. Мясцовыя людзі кажуць, што забітых жаўнераў КАП, як і чырвонаармейцаў, забітых пры штурме стражніц КАП, хавалі побач з будынкамі. Цяпер месца мала хто можа паказаць, бо шмат палёў зааралі, ландшафт змяніўся за 80 гадоў. Таму, калі ёсць дакладнае месца, то напэўна трэба праводзіць эксгумацыю.

І што дапусцяць адмыслоўцаў з польскага інстытута, гэта вельмі добра. Гэта дазволіць прыдкрыць яшчэ адну са старонак 17 верасня 1939 года, пра тое, што ўваход Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь адбываўся не мірна і спакойна, гэта былі баі.

**Паводле “Rzeczpospolita” і радыё “Свабода”.**

## У Вілейцы паставілі новыя скульптуры

ВІЛЕЙКА

Скульптуры, створаныя падчас пленэру, ужо паставілі ў Вілейцы.

Працы "Нявольніца прыгажосць" **Паўла Лявонава**, "Сям'я" **Аляксандра Сакалова** і "Плынь" кіраўніка пленэру **Івана Арцімовіча** паставілі на газонах цэнтральнай плошчы.

А скульптура "Водазахавальнікі" **Арцёма Мядзведзева** аздобіла вілейскі гарадскі парк.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Скульптура Аляксандра Сакалова “Сям’я”.

Першапачаткова планавалі ўсе творы паставіць у парку недалёка адзін ад другога. Аднак перашкодзілі чыста тэхнічныя моманты.

Па словах **Жанны Петух,** намесніка начальніка аддзела культуры, ідэалагічнай працы і па справах моладзі, калі пачалі капаць зямлю ў парку, высветлілася, што там праходзіць кабель. Таму і атрымалася паставіць толькі скульптуру Арцёма Мядзведзева.

Урачыстага адкрыцця пакуль не было. Па словах Жанны Петух, плануюць запрасіць кагосьці з вобласці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Спачуванне

Выказваем шчырыя спачуванні **Івану Пятровічу** і **Караліне Мечыславаўне Драўніцкім** з прычыны невымернага гора – трагічнай смерці любімага сына Івана. Немагчыма знайсці словы, якія б суцешылі вас у гэтыя цяжкія дні. Няхай светлая памяць аб дарагім і блізкім чалавеку заўсёды жыве ў сэрцах блізкіх, тых, хто яго ведаў.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**

# "Надзею" наведалі пяціразовыя чэмпіёны свету па міні-футболу

## Усе спартсмены – інваліды па зроку і слыху

ВІЛЕЙКА

**У футбол пачаў гуляць у дзяцінстве проста таму, што іншых заняткаў у нашым дзетдомаўскім дзяцінстве не было, – прызнаўся на сустрэчы з выхаванцамі дзіцячага Цэнтра "Надзея" заслужаны трэнер Беларусі, чэмпіён свету па міні-футболу, уладальнік тытулу "Гонар нацыі" Анатоль Усенка.**



Аксана была лепшай у камандзе дзяўчынак-футбалістак "Надзеі". За гэта ад Анатоля Усенкі атрымала кепку.

Не, варыянты баўлення часу былі, канешне. Дзетдомаўцы садзілі памідоры, выбіралі цыбулю. Аднак толькі футбол быў заняткам для душы. А яшчэ ён дысцыплінаваў незаўсёды дысцыплінаваных хлопчыкаў.

Вучні аднолькава стараліся выправіць дрэнныя адзнакі па прадметах, і для таго, каб схадзіць на футбольную трэніроўку, і для таго, каб патанчыць на дыскатэцы. У адваротным выпадку выхавацелі іх проста не пускалі туды.

### З 364 дзён дома былі 120

Вось так, з дзіцячага занятку футбол паступова ператварыўся для Анатоля Усенкі ў значную частку жыцця. Настолькі значную, прызнаўся трэнер, што дзвюх дачок, у асноўным, выхоўвала жонка.

Калі ў 1982 годзе футбалісты сталі чэмпіёнамі былога СССР, нехта з каманды падлічыў, што за ўвесь год дома яны былі 120 сутак.

Амаль 20 год таму Анатоль Усенка пачаў займацца з камандай, куды ўваходзілі інваліды па зроку. Пасля да іх далучыліся інваліды па слыху. Каб працаваць з такімі спартсменамі, Анатоль Іванавіч вывучыў мову жэстаў.

### Прыходзіла нават думка "крута я патрапіў"

Першапачаткова было нялёгка. Прыходзілі думкі кшталту "крута я патрапіў".

Затое сёння каманда Анатоля Усенкі – пяціразовыя чэмпіёны свету па міні-футболу сярод аналагічных каманд. А трэнер адчувае сябе шчаслівым, калі глядзіць у вочы "сваім хлопцам".

Цяпер праца ідзе зладжана. У звычайным рэжыме трэніруюцца два разы на тыдзень. Трэніроўка – дзве гадзіны.

Калі рыхтуюцца да чэмпіянату свету або Еўропы, займаюцца шэсць разоў на тыдзень. І гэта пры тым, што ўсе футбалісты маюць сем'і і працуюць на сталічных прадпрыемствах.

Раней, па словах Анатоля Усенкі, было больш каманд па міні-футболе сярод інвалідаў. Цяпер яго каманда – адна на ўсю Беларусь. Усё таму, што міні-футбол – не параалімпійскі від спорту, кажа трэнер.

Аднак заўсёды ідзе насустрач Федэрацыя беларускага футболу і футбольны клуб "Мінск" на чале з **Ігарам Шлойдам**. Дазваляюць гуляць на сваім футбольным полі, прадастаўляюць раздзявалку для спартсменаў.

### Правяраюць, каб інваліды па зроку сапраўды дрэнна бачылі

Па словах трэнера, ніякіх асаблівасцей у параўнанні са звычайным міні-футболам у іх гульні няма. Усё як у здаровых людзей. Адзінае, перад чэмпіянатамі свету і Еўропы футбалісты-інваліды па зроку і слыху праходзяць пільную медкамісію.

Дактары правяраюць ігракоў, каб на поле не трапілі футбалісты, якія не маюць праблем са зрокам і слыхам.

Ніякіх сувязей з Вілейшчынай у Анатоля Усенкі да пэўнага моманту не было. З'явіліся яны ў 2006 годзе. Тады Анатоль Іванавіч прыехаў, каб урачыста адкрыць тут пляцоўку для міні-футбола.

Сам прапанаваў бясплатныя сустрэчы і майстар-класы, каб выхаванцы "Надзеі" ведалі, што ў Беларусі ёсць такая каманда.

Кіраўнікі Цэнтра падтрымалі яго. Цяпер штогод падчас свайго летняга адпачынку трэнер з камандай едуць у "Надзею".

– Праўда часам мае футбалісты ўзрушаюцца, што ў выхадны дзень да вечара прыходзіцца адарвацца ад сям'і і ехаць на сустрэчу з вучнямі, аднак я ўмею пераканаць, – кажа Анатоль Усенка.

### Інваліды-вазочнікі прасілі навучыць гуляць у футбол

З "Надзеяй" у Анатоля Усенкі звязаны адзін адначасова і яркі, і балючы ўспамін. Пасля адной з сустрэч да трэнера звярнуліся інваліды-вазочнікі, якія адпачывалі ў



Падчас таварыскага матчу паміж камандай Анатоля Усенкі і хлопчыкаў "Надзеі".

Цэнтры. Хлопцы, якія не мелі ног, прасілі Анатоля Іванавіча навучыць іх гуляць у футбол.

Трэнер тады не спаў цэлую ноч. Усё думаў, што адказаць гэтым хлопцам. І ўрэшце прыдумаў для іх практыкаванні. Хлопцы злязалі са сваіх вазкоў, абапіраліся на рукі і куксамі ног адбівалі мяч ад футбольных варот.

Юныя ўдзельнікі сустрэчы задавалі спартсменам разнастайныя пытанні пра футбол. Ці гулялі вы з Брытаніяй? Ці сябруеце з сапернікамі? Як матывуеце сябе, калі не хочацца на трэніроўку? Ці гулялі з **Дэвідам Бэкхэмам**?

### Гуляем так, што косткі трашчаць

Некаторыя асабліва крэатывілі. Напрыклад было пытанне: калі б вы былі дызайнерам адзення, якую б форму распрацавалі для жаночага футбола?

Аказалася, што маладым футбалістам падабаецца форма баскетбалістак: кароткая спаднічка і майка, якая падкрэслівае прываблівую жаночую фігуру.

А ўвогуле, у якую форму жанчыну ні апрані, ёй усё будзе прыгожа, перакана765 спартсмены-мужчыны.

– Калі шчыра, мы не вельмі любім жаночы футбол, – адказаў за ўсіх адзін з футбалістаў. – Мы часам гуляем так, што косці трашчаць. Цяжка ўявіць жанчын у такіх сітуацыях.

Цікавіла хлопцаў і дзяўчат, што нельга есці футбалістам падчас падрыхтоўкі да сур'ёзных спаборніцтваў. Аказалася, самым жаданым і забароненым ласункам



Заўзятары.

з'яўляецца бульба-фры.

Пасля сустрэчы зрабілі невялікую паўзу на аўтографы, сэлфі і ўзаемныя падарункі. А потым зладзілі некалькі таварыскіх матчаў.

Спачатку каманда Анатоля Усенкі гуляла з дзяўчатамі, затым – з хлопцамі. А завяршылу сустрэчу таварыскі матч з вілейскай футбольнай камандай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Чый герой Фёдар Маркаў?

## Партызаны выганялі бацьку з дзецьмі перад сабой, каб перайсці чыгунку. Правяралі, ці замініраваная

*Працяг. Пачатак у №34.*

**Побач з фарміраваннем Фёдара Маркава ад вясны 1943 года быў арганізаваны першы польскі партызанскі атрад Віленскай акругі Арміі Краёвай (АК) "Burza" пад камандаваннем падхарунжага Антоні Бужыньскага, псеўданім "Kmicic". Бужыньскі і Маркаў разам вучыліся ў Свянцянскай настаўніцкай гімназіі.**



Польскія партызаны ў страі. Пятая брыгада Арміі Краёвай, якая дзейнічала на абшарах Віленшчыны, у тым ліку, на тэрыторыі нашага рэгіёна.

### "Слова чести советского офицера"

Аднакласнікі разам дыслацыраваліся, узгаднялі свае дзеянні, праводзілі сумесныя акцыі. Разграмілі непрыяцельскі гарнізон ў вёсцы Кабыльнік (цяпер – Нарач), ліквідавалі паліцэйскі ўчастак у Вайстоме, у ходзе начной акцыі знішчылі мост на пераправе праз Вілію.

Сітуацыя змянілася пасля красавіка 1943 года, калі стала вядома пра расстрэл органамі НКУС палонных польскіх афіцэраў каля Смаленска ў Катыньскім лесе. 26 красавіка ў Куйбышаве савецкі ўрад аб'явіў аб разрыве адносін з польскім эміграцыйным урадам у Лондане. Гэты разрыў адразу паставіў сілы АК у новую сітуацыю.

> **Нямецкая прапаганда напоўніцу выкарыстоўвала факт расстрэлу, каб пасеяць варожасць паміж польскім і савецкім народамі.**

У Нарачанскай партызанскай зоне інфармацыю пра катыньскую трагедыю партызанскія разведчыкі здабылі з нелегальнай газеты Віленскай акругі АК "Неподлеглость" ("Незалежнасць"). Партызанскія камандзіры былі ўпэўненыя, што гэта агідны паклёп на герагічны савецкі народ. У выніку замест сумеснай барацьбы з нацыстамі байцы АК былі аб'яўленыя ворагамі савецкай улады.

У адплату 28 жніўня 1943 года Маркаў аддаў загад абяззброіць і расфарміраваць акаўскі атрад "Burza" Антоні Бужыньскага. Для гэтага ўжылі хітрасць і падман.

У пачатку восені 1943 года на польскую базу каля возера Нарач прыбыў сам Фёдар Маркаў са сваімі людзьмі, які звярнуўся да байцоў атрада Бужыньскага з такімі словамі:

*"Здравствуйте, солдаты. Я получил приказ из Москвы разоружить ваш отряд. Выполняя этот приказ, мои люди вас разоружили. Теперь нечего опасаться. Никому из вас ничего не будет. Я даю вам слово чести советского офицера".*

Але ўжо на наступны дзень расстралялі 50 чалавек атрада, уключна з камандзірамі, 80 партызан-"акаўцаў" адпусцілі дамоў, а 70 радавых байцоў размеркавалі па падраздзяленнях брыгады Маркава і ў толькі што створаны польскі атрад імя Ванды Васілеўскай, які падпарадкоўваўся савецкаму камандаванню.

Пазней расстралялі яшчэ 30 палякаў, астатнія разбегліся.

У такія факты цяжка паверыць, ці маглі ўвогуле адбывацца такія падзеі, але такое адбывалася насамрэч.

### Немцы спрабавалі скарыстаць раскол АК і партызан

На гэтым справа не скончылася. Такое проста так з рук не сходзіць. Акаўцы сталі помсціць. Па загаду штаба Віленскай акругі АК у Нарачанскі край прыбыў паручнік **Зыгмунт Шэндзеляж** ("Лупашка"). З рэшткаў атрада "Kmicic" і навабранцаў ён сфарміраваў новы атрад, на базе якога пазней была створана 5 (Віленская) брыгада.

Зыгмунт Шэндзеляж адразу стаў дзейнічаць супраць савецкіх партызан. Ён не даваў ім спакою ні днём, ні ўначы – арганізоўваў засады, нападаў знянацку на дробныя савецкія групы. Кожная такая сутычка заканчвалася ахвярамі з абодвух бакоў. Замест таго, каб сумесна змагацца з агульным ворагам, славяне сталі біцца між сабой.

Штаб Маркава, хутка цвяроза ацаніўшы глупства сітуацыі, прапанаваў "Лупашку" спыніць узаемнае знішчэнне і неадкладна пачаць перагаворы, даўшы гарантыі ненападзення на палякаў. Уступныя перамовы адбыліся на хутары Сянгуцава ля вёскі Бібікі.

Пазней у студзені на больш высокім узроўні спатканне адбылося ў Сыраватках, непадалёку ад Свіры. АК прадстаўляў камендант Віленскай акругі **Аляксандр Кжыжаноўскі** ("Wilk"), з савецкага боку прысутнічаў камандзір брыгады імя Гастэлы **Віктар Манохін**.

Апошні, між іншым, не стаў адмаўляць факты грабяжу насельніцтва, а толькі сказаў, што прадукты вывозяцца за лінію фронта маўляў "для питания раненых партизан".

Тон дыскусіі быў вельмі вострым і, нягледзячы на ўсе намаганні Манохіна, да паразумення так і не дайшлі.

Недавер і варожасць узялі верх над цвярозым разлікам.

І вось 22 лютага 1944 года часці злучэння Фёдара Маркава ўсёй моцай абрушыліся на 5-ю брыгаду АК каля рэчкі Стрэчынка, вёсак Рудзішы і Лозава. Сілы былі няроўныя і пасля інтэнсіўнай перастрэлкі Шэндзеляж адвёў сваіх жаўнераў у бок Вільні.

Урок быў вельмі наглядны, аблавы і засады на савецкія партызанаў часова былі прыпынены. Ведаючы пра такую сітуацыю, немцы імкнуліся ўстанавіць кантакт з атрадамі АК, аказаць ім дапамогу зброяй і боепрыпасамі, а затым падштурхнуць да барацьбы супраць савецкіх партызанаў, але няўдала.

### Як бальшавікі пераходзілі чыгунку

Пра дзейнасць маркаўцаў ёсць сведчанні простых жыхароў.

Францішак Драгун, былы жыхар вёскі Руда Пастаўскага раёна, успамінаў:

"Бальшавіцкія партызаны вельмі народ прыгняталі, а асабліва палякаў. Прыходзілі п'яныя, усіх выганялі ў двор, ставілі да сцяны, а самі што хацелі, тое і забіралі – нават апошнюю свінню ці курыцу, не гаворачы ўжо пра кароў і коней. Пагражалі нам, білі і здзекаваліся.

Бацьку два разы забіралі, каб праводзіў іх праз чыгунку, баяліся, што шляхі да пуцёў маглі быць замініраваныя немцамі, ці там ёсць засада.

Бацька вымушаны быў ісці наперадзе, а мы з плачам ішлі ўслед за ім. А партызаны з бяспечнай адлегласці назіралі. Нацярпеліся мы тады страху…"

**Сяргей КАСМАЧ,**
**Маладзечна.**
**Працяг будзе.**

---

**КАЛЯНДАР**

**1 ВЕРАСНЯ**

**1906.** У Вільні выйшла першая легальная беларуская газета "Наша доля". Першае выступленне ў друку **Якуба Коласа**.

**1939.** Пачатак 2-й сусветнай вайны. Напад нацысцкай Германіі на Польшчу.

**3 ВЕРАСНЯ**

**1927.** Нарадзіўся **Алесь Адамовіч** (пам. 1994), пісьменнік і грамадскі дзеяч.

**1967**. Швецыя перайшла на правабаковы аўтамабільны рух.

**4 ВЕРАСНЯ**

**1956.** Амерыканскае прадпрыемства IBM сканструявала першы цвёрды дыск – галоўны тып носьбітаў лічбавай інфармацыі ў 20-м – пачатку 21-га стагоддзяў.

**1959.** У ЗША ў продажы з'яўляецца навінка – калготкі.

**1975.** На савецкім тэлебачанні ў эфір упершыню выйшла гульня "Что? Где? Когда?"

**5 ВЕРАСНЯ**

**1901.** У Вільні нарадзіўся **Арсен Канчэўскі** (парт. псеўданім В.Камінскі, тав. Уладэк). Дзеяч рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Трагічна загінуў, купаючыся ў Чорным моры 31.08.1931. Пахаваны на вайсковых могілках у Мінску.



**1984.** У Магаданскай вобласці Расіі нарадзіўся беларускі паэт **Рагнед Малахоўскі**. У дзяцінстве з сям'ёй пераязджае ў Мядзельскі раён. Скончыў БДЭУ. Працаваў грузчыкам, прадаўцом-кансультантам, выхавацелем у інтэрнаце, ахоўнікам, на будоўлі. Аўтар паэтычных зборнікаў.

**6 ВЕРАСНЯ**

**1933.** Абмен вязнямі на савецка–польскай мяжы. **Францішка Аляхновіча** абмянялі на **Браніслава Тарашкевіча**.

**7 ВЕРАСНЯ**



**1958.** Нарадзіўся **Віктар Ганчар**, беларускі палітык. У 1991 годзе – першы намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкама Генадзя Карпенкі. Знік пры загадкавых абставінах у 1996 годзе.

**Падрыхтаваў**
**Мікола ГАЙДУК.**

# Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.




Сям'я Валера і Вольгі Беглякоў на ганку яшчэ пакуль іх дома.

# Сям'ю з трыма дзецьмі хочуць выселіць з дома ў Хажове

МАЛАДЗЕЧНА

**У аўторак, 22 жніўся, адбыўся суд, які вынес пастанову сям'і Беглякоў выселіцца з дома, у які яны засяліліся тады, калі гаспадар дома Валер Бягляк, працаваў у мясцовым СВК.**

Сям'я Бягляк – гэта маці Вольга, бацька – Валер і дзеці **Ірына, Жэня і Сяргей.** Старэйшая Ірына сёлета перайшла ў сёмы клас.

Але так можа здарыцца, што букет настаўніцы яна будзе рваць ужо не ў сваім двары.

Сям'я Беглякоў прыехала ў Хажова гады тры таму.

– Мы жылі ў Віцебскай вобласці, – расказвае Вольга. – Там і заробкі былі ніжэйшыя, і да школы дзецям дабірацца было далёка. Таму галава сям'і прыняў рашэнне пераязджаць у Хажова.

– Я высветліў, што у СВК патрабуецца трактарыст, спытаўся пра жыллё і заробак. Усё задаволіла. Таму мы сабралі сумкі і прыехалі сюды, на Маладзечаншчыну.

Пад нагамі ў кухні круціцца чорна-белы кот.

– Ён таксама з Віцебшчыны прыехаў, малодшы сын Жэнька яго, яшчэ кацянём, пасадзіў у сумку і нікому не сказаў. Толькі ў цягніку мы пачулі: "Мяу-мяу", адкрылі сумку – сядзіць.

**Праца ў СВК Валеру падабалася, але з кіраўніцтвам СВК узніклі непаразуменні.**

– Мне трэба сям'ю было карміць, я прасіў павысіць заробак. Але дырэктар СВК насустрач не пайшоў. Тады я ўспыліў, з гарачкі напісаў заяву аб звальненні, а дырэктар яе падпісаў. Але я ж не думаў, што дойдзе да таго, што ён скажа пакінуць дом.

Валер без працы не быў ні аднаго дня, адразу ўладкаваўся трактарыстам у Маладзечанскае райспажыўтаварыства. На пытанне, ці ёсць магчымасць у райспажыўтаварыстве прадаставіць жыллё, Валер адказвае:

– Нават калі і ёсць у райспажыўтаварыства інтэрнат, я не ўяўляю, як змагу жыць у горадзе. Я нарадзіўся ў вёсцы і 46 гадоў жыву ў ёй. Да таго ж, у школу ходзяць дзеці, пасля ўрокаў бегаюць у мясцовую мастацкую школу.

**Выйсце Валер з сітуацыі бачыць наступнае. Калі б яго пагадзіліся ўзяць у гаспадарку на працу ізноў, ён бы не раздумваў і пагадзіўся.**

Або сям'я згодная плаціць грошы за жыллё, абы ім пакінулі іх ужо абжыты дом.

На пытанне, ці разглядаецца варыянт, каб пераехаць у іншую вёску, Валер адказвае:

– Я працую адзін, Вольга па стане свайго здароўя пакуль працаваць не можа ды і за Сярожам трэба даглядаць. Ці захоча хто ў гаспадарку браць аднаго работніка?

### Дзеці з інваліднасцю – гэта не аргумент, каб пакінуць жыллё сям'і

Юрыст **Алеся Кананчук** пракаментавала сітуацыю сям'і Бягляк:

– Завочна гаварыць цяжка. Але пры ўсім пры тым, што суд прыняў рашэнне на высяленне, трэба паглядзець дакументы, рашэнне суда.

**І пры ўсёй відавочнасці сітуацыі, ёсць абставіны, калі суд можа адмяніць сваё рашэнне.**

Але тое, што сям'я шматдзетная і ў ёй выхоўваецца дзіця-інвалід – гэта не будзе асноўнай прычынай, па якой могуць службовае жыллё пакінуць у карыстанне.

Калі ж сям'ю Бегляковў выселяць з дома, яны акажуцца ў крытычнай сітуацыі, бо на Маладзечаншчыне ні ў Валера, ні ў Вольга сваякоў няма. Ісці ім няма куды.

**Андрэй Марозаў**, дырэктар Хажоўскай школы, у якой вучацца дзеці Валера і Вольгі расказаў, што на гэтым тыдні праходзіла пасяджанне камісіі па пытанні гэтай сям'і.

– На яе мы запрасілі кіраўніцтва СВК, – кажа Андрэй Марозаў, – і яны нас запэўнілі, што сям'ю на вуліцу ніхто не выставіць.

**Дом сям'я Беглякоў будзе займаць роўна столькі часу, колькі ім спатрэбіцца для таго, каб знайсці сабе іншае жыллё.**

Кіраўнік СВК "Хажова" **Уладзімір Гнілазуб** знаходзіцца ў адпачынку, таму што пра гэту сітуацыю думаюць у СВК, мы запыталіся ў галоўнага інжынера **Аляксандра Карнея.**

– Каб жа ўсё было так проста. Былі нюансы з дысцыплінай трактарыста Валера Бегляка. І, калі ўзяць яго паўторна на працу, думаю, кіраўніцтва не пагодзіцца. Бо, калі раптам што здарыцца, не хочацца за памылкі трактарыста адказваць сваёй галавой. А пакінуць сям'і дом? Ведаеце, тады ўсе так захочуць. Мець дом у вёсцы, а працаваць у горадзе. А дзе жыць тым, хто прыедзе на працу да нас і будзе гатовы працаваць усёй сям'ёй у СВК.

Як жа памірыць закон і сумленне пакуль адказу няма.

Фота аўтара.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

# У сталіцы адкрылі выставу вілейскага мастака

ВІЛЕЙКА

**24 жніўня ў Мінску ў галерэі "Інстытут культуры" адкрылі выставу вілейскага фотамастка, сябра "Рэгіянальнай газеты" Міхася Куляша "www.michas.by. 2017"**

Па словах самога творцы, ад адкрыцця засталіся цёплыя, добрыя эмоцыі. Хаця мерапрыемства нельга было назваць шматлюдным.

**Склалася ўражанне "цёплага сямейнага кола", кажа Міхась. Магчыма, дрэннае надвор'е стала для кагосьці перашкодай наведаць выставу.**



"Мой прынцып – проста бачыць прыгожае і фатаграфаваць" – падзяліўся некалі Міхась Кулеш з журналістамі "Рэгіянальнай газеты".

Фота Яўгена Стэльмаха.

Хоць людзей было не шмат, аднак гэта былі зацікаўленыя асобы – пісьменнікі, журналісты, культурныя дзеячы рэдактары рэспубліканскіх мастацкіх выданняў. Амаль не было і калег-фатографаў.

Радасць творцы раздзялілі землякі. На адкрыцці прысутнічалі бацькі Міхася, вілейскі мастак **Эдуард Мацюшонак**. Эдуард Уладзіміравіч расказаў пра Міхася, як пра фатографа, у якога ўвесь час ёсць незадаволенасць зробленым. Па назіраннях Эдуарда Мацюшонка, Міхась шмат спрабуе, эксперыментуе. Гэта правільны шлях мастака.

### Як склаўся творчы дуэт фатографа і паэта

Подпісы да кожнага фотаздымка на выставе не зусім звычайныя. Гэта вершаваныя радкі **Уладзіміра Цануніна.**

– Міхася я ведаю даўно, – кажа Уладзімір Яфімавіч. – Прысвяціў яму верш падчас яго першай выставы ў вілейскім музеі. Так і пачалося супрацоўніцтва.

Пасля той вілейскай выставы Міхась прапанаваў Уладзіру Цануніну выдаць сумесны фотаальбом. У ім змясцілі б фотаздымкі аднаго і вершы другога.

– Але ацаніўшы свае магчымасці, мы зразумелі, што выданне альбома – задума някепская, але фінансава непад'ёмная.

І усё ж творцы ад ідэі не адмовіліся. Вынікам таму – сёлетняя выстава.

Вершаваныя радкі паэт пісаў адмыслова для кожнага здымка. Нават, крыху перапісваў у апошнія дні. Справа ў тым, што першапачатковa паэт прагладаў здымкі ў паменшаным выглядзе, і таму не заўважыў дробных, але важных дэталяў.

– Калі перад выставай мы разам прагледалі фотаздымкі на маім камп'ютары, Уладзімір Яфімавіч зразумеў, што шмат чаго не ўбачыў, – прыгадаў Міхась. – Таму адразу пазначаў сабе, што трэба перапрацаваць.

### Проста не адмовіўся ад прапановы

"www.michas.by.2017" – першая сёлета выстава віляйчаніна, а ў Мінску яна ўвогуле першая за ўсю яго творчасць. На думку Міхася, выстава ў сталіцы дадае нейкі статус у сваіх колах.

Але сам ён магчымасцяў выстаўляцца ў Мінску не шукаў. Проста атрымаў прапанову і не адмовіўся.

На некалькіх фотаздымках – Мінск, на большасці – краявіды родных вілейскіх мясцін у розныя поры года, зробленыя ў розным настроі.

Усяго тут прадстаўлена каля 50 здымкаў з туманнымі ранкамі, вясковымі краявідамі, берагамі Віліі і хвалямі Вілейскага вадасховішча.

Калі параўноўваць гэтую выставу з леташняй у Вілейцы, адрозненняў мала, адзначае Міхась. Аўтар замяніў пару фотаздымкаў. А адзін не трапіў на сцяну галерэі па "тэхнічных" прычынах: пабіўся ў час перавозкі.

Выстава працягнецца да 8 верасня па адрасе Кастрычніцкая плошча, 1.

**– Я ўлюблёны ў вілейскую прыроду, – прызнаецца фотамастак. Адсюль і жаданне данесці гэтую прыгажосць гледачам.**



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

**Даведка "РГ".** Міхаіл Кулеш вядомы мастак-фатограф з Вілейкі, сябра Беларускага грамадскага аб'яднання фатографаў. Яго здымкі можна пабачыць на розных інтэрнэт-парталах і ў каталогах. Шмат фотаздымкаў сабраны у наборы паштовак "Спадчына Вілейшчыны" і іншых выданнях, прысвечаных Вілейскаму рэгіёну.
У 2012 годзе Міхась Кулеш скончыў курсы па мастацкай фатаграфіі пры Беларускім саюзе дызайнераў. Навучаўся на журналісцкіх курсах у Польшчы, Украіне і Беларусі, прымаў удзел у конкурсах па фотажурналістыцы. Па выніках аднаго з іх быў узнагароджаны бясплатным навучаннем на працягу 2014-2015 гадоў у Міжнароднай школе ў рамках праекта "Увага, усмешку!".
У лістападзе 2016 года паспяхова прайшла выстава фотаработ Міхаіла Кулеша ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сіліванович, пра якую мы пісалі летась у лістападзе.

НАВІНЫ

## Зладзяць фестываль культур "Ракаўскі фэст"

ВАЛОЖЫН

10 верасня ў Ракаве правядуць фестываль культур "Ракаўскі фэст.

Ракаў – полікультурнае мястэчка. Здаўна тут цесна пераплецены культуры розных народаў, якія на працягу многіх стагоддзяў мірна і плённа разам працавалі і адпачывалі.

Асабліваганроcквіту Ракаў дасягнуў у 30-я гады мінулага стагоддзя, калі апынуўся на памежжы Польшчы і СССР, і нават атрымаў неафіцыйны статус "сталіцы кантрабандыстаў".

У праграме фестывалю: прэзентацыя польскай, беларускай, літоўскай і яўрэйскай культур, выступленні музычных і харэаграфічных калектываў з Польшчы, Беларусі і Літвы, кірмаш "Горад майстроў", выставы.

Гасцей таксама чакае квэст "Сцежкамі кантрабандыстаў", які дазволіць акунуцца ў атмасферу Ракава 1930-х гадоў.

Удзельнікі змогуць пакаштаваць стравы нацыянальнай кухні краін, прадстаўленых на фестывалі, і правесці дэгустацыю піва.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ашмянскую і Мядзельскую падатковую інспекцыю рэарганізуюць

АШМЯНЫ, МЯДЗЕЛ

Структура інспекцый зменіцца ад 1 верасня.

У межах рэарганізацыі некаторыя інспекцыі далучацца да іншых.

Інспекцыя па Мядзельскім раёне далучыцца за Вілейскай. Код падраздзялення падатковага органа па Мядзельскім раёне будзе 615, лічбавы дзевяцізначны код 601615002.

Да Смаргонскай інспекцыі далучаць Ашмянскую. Для запаўнення плацёжных дакументаў рэарганізаванай падатковай інспекцыі выкарыстоўвацьме код 515, дзевяцізначны код 501515000.

Пасля рэарганізацыі па месцы далучаных інспекцый будуць упраўленні (аддзелы) па рабоце з плацельшчыкамі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мінадукацыі абвясціла новыя цэны на школьныя падручнікі

Адпаведная пастанова апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, піша finance.tut.by.

Самыя дарагія падручнікі для 7 класа – 40,57 рубля, але бацькі аплочваць палову. Даражэй за ўсё ў камплекце з 14 кніг каштуюць падручнікі па матэматыцы – 6,33 рубля, замежнай мове – 5,2 рубля і рускай літаратуры – 5,88 рубля, а танней за ўсё – па беларускай літаратуры – 0,3 рубля.

Атрымліваецца, што бацькам, чые дзеці пойдуць у сёмы клас, за карыстанне падручнікамі прыйдзецца заплаціць 20,28 рубля. У мінулым навучальным годзе сума складала 8,12 рубля. У шостым класе трэба плаціць – 13,32.

Для параўнання: у мінулым навучальным годзе больш за ўсё каштавалі кнігі і дапаможнікі для 6 класа – 28,09 рубля, за карыстанне трэба было аддаць 14,04 рубля

Менш за ўсё трэба заплаціць за карыстанне дапаможнікамі і падручнікамі вучням 4 класа – 6,7 рубля.

Унесці аплату за карыстанне школьнымі падручнікамі і дапаможнікамі трэба да 1 кастрычніка. Можна і праз АРІП.

**Паводле tut.by.**

## Першы энергаблок БелАЭС пачне працаваць у снежні 2019 года

АСТРАВЕЦ

Пра гэта 27 жніўня заявіў галоўны інжынер атамнай станцыі ў Астраўцы **Анатоль Бондар**, піша Tut.by

– Тэрмін – снежань 2019 года. Павінна быць поўная гатоўнасць, – заявіў Бондар.

Другі энергаблок плануюць увесці ў эксплуатацыю ў 2020 годзе.

Галоўны інжынер станцыі паведаміў, што не сумняваецца ў яе бяспецы.

– Мы распрацавалі справаздачу па стрэс-тэстах, на аснове якіх рэгулятар Дзяржатамнагляд рыхтуе нацыянальную справаздачу. Мы не будзем яе хаваць. Яна пройдзе экспертызу нашых спецыялістаў, і няхай глядзяць эксперты Еўрасаюза, – сказаў Бондар. – Аналіз нашага праекта паказаў, што ён вельмі добра абаронены ад аварыйных падзей, прыродных катаклізмаў: паводак, землятрусаў. Эксперты прызналі, што праект не патрабуе карэкціроўкі.

Нагадаем, Беларуская АЭС будуецца па тыпавым расійскім праекце АЭС-2006 новага пакалення "3+" на паўночны ўсход ад Астраўца.

**Паводле tut.by.**

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЁМ КАЧАТКОВЫМ

## Як паставіць "сціснуты" мат

У нядаўняй перадачы на "Мінскай хвалі" вядучы **Андрэй Мурын** зрабіў камплімент маёй кніжцы "Мат ў адзін ход". Ён сказаў, што я рэалізаваў мару пра кнігу ўсіх дзяцей. У маёй кнізе няма слоў – там толькі карцінкі. З аднаго боку гэта жарт, з іншага – вялікая глабальная думка.

Жыццё, як і шахматы – гэта не толькі словы. Я, дарэчы, да слоў стаўлюся з вялікай павагай, але да спраў і дзеянняў – яшчэ з большай. Не ўсе дзеянні можна эфектыўна, коратка і зразумела растлумачыць словамі. Так і ў шахматах. У шахматы трэба гуляць, дзейнічаць! А сама думка і дзеянні лягчэй за ўсё перадаюцца праз карцінкі.

Любая думка, якая перадаецца праз словы, абмежаваная своеасаблівым трафікам – каля 120 слоў у хвіліну. Думка, якая перадаецца праз карцінку мае хуткасць у дзясяткі, а можа і ў сотні разоў вышэй. Тут ужо ідзе барацьба якасці і колькасці – калі хутчэй, то часам не вельмі якасна. Але дыялектыка карцінкі і слова ў сучасным свеце бачная няўзброеным поглядам. Менавіта таму сучасныя дзеці ў сваёй большасці не любяць чытаць, таму што малюнак – фота, відэа, гульні, –відавочна перамагаюць па хуткасці думкі. А вось з якасцю ... а вось разуменне якасці павінны данесці і прышчапіць дарослыя.

А дарослыя, гэта значыць мы, ці самі з'яўляемся якаснымі? Глыбокімі?

У Маладзечне вісіць рэкламны банер пра магчымасць заняткаў і навучанне шахматам для дарослых. Адгадайце з трох разоў, колькі было тых, хто жадае павысіць свой інтэлектуальны ўзровень?

Такім чынам, шахматы – гэта карцінкі. Мноства правільных і аб'ектыўных малюнкаў, дзе ў кожным ёсць безліч хадоў. Яны бываюць добрыя і кепскія, а бываюць нават геніяльныя! Нават у пазіцыі з двума каралямі на дошцы ёсць 16 варыянтаў.

А ў жыцці людзі вельмі часта бачаць толькі два хады – "так" ці "не", ці "чорнае" або "белае". А дзе яшчэ 322 адценні?

У шахматах шмат малюнкаў, але яны ўсё запісваюцца, пасля кожнага ходу пазіцыя мяняецца, кожная пазіцыя па-свойму ўнікальная, і кожную пазіцыю магчыма вельмі якасна апісаць, прааналізаваць і нават напісаць артыкул! Ды што артыкул, па некаторых цікавых пазіцыях магчыма напісаць і невялікую кнігу.

Дыяграма №95 з кнігі задач па шахматах для пачаткоўцаў "Мат ў адзін ход" Віталя Качаткова.




Такім чынам, што мы маем? Чорны кароль на f4 знаходзіцца ў цеснай кампаніі сваіх (чорных) фігур, і, хоць і невялікай, але арганізаванай кампаніі белых. Белая армія страціла амаль усе свае баявыя адзінкі, але тыя байцы, што засталіся, занялі галоўныя вышыні, дастатковыя для палону чорнага манарха. Разгледзім усё па парадку.

Белая ладдзя на E8 кантралюе ўсю вертыкаль E. Белы ферзь на f2 узяў пад кантроль маленькую шчыліну-фортку g3, і, увага, звязвае па вертыкалі пешку f3. Гэты маленькі нюанс звязкі чорнай пешкі f3 згуляе вырашальную ролю пры арганізацыі мата чорнаму каралю.

Астатнія чорныя палі каля чорнага караля занятыя сваімі ж чорнымі фігурамі. Гэтая акалічнасць стала вырашальнай для крыху "сціснутага" мата. "Сціснуты" мат – гэта калі каралю перашкаджаюць свае ж фігуры. Такім чынам, рашэнне для мата: конь – e2x!

Цяпер разгледзім мат ў іншы бок. Белы кароль на h1 не мае хадоў. Чорная ладдзя на g2 абмяжоўвае яго рух цалкам. Ладдзя g2, дарэчы, абароненая і пешкай f3, і ферзем g4. У дадзенай пазіцыі ёсць прымальны і добры ход: конь g3 + (шах).

Але ён не з'яўляецца рашэннем, таму што белыя б'юць ферзем: Ф:g3!, застаюцца без ферзя, з прайгранай партыяй. Але ў задачы патрабаванне – мат у адзін ход! Можна ісці да рашэння метадам выключэння. Ужо ясна, што ход канём мата не дае. Застаюцца яшчэ дзве фігуры, якія могуць паўдзельнічаць у палоне белага караля h1. Гэта ладдзя g2, і ферзь g4. Усе астатнія чорныя фігуры проста назіраюць. Такім чынам, ладдзя з хадамі на g1 і h2 мата не дае. Застаецца ферзь. У ферзя ёсць адзін шах, але ён аказваецца вельмі эфектыўным: шах і мат! Ферзь h3X.

Усім найлепшага, шахаў і матаў!



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Велапрабег з караоке адбудзецца ў Жупранах

**АШМЯНЫ**

**9 верасня ў Жупранах і Замасцянах адбудзецца велапрабег з забаўляльным мерапрыемствам "KARAOKE на паляне".**

Арганізатарам мерапрыемства другі год запар выступае камандаванне Смаргонскай памежнай групы.

Велапрабег стартуе з 3-х пачатковых пунктаў, размешчаных у Смаргоні, Ашмянах і Астраўцы.

Сёлетнія маршруты руху для ўдзельнікаў велапрабегу будуць наступнымі:

Маршрут № 1 стартуе са Смаргоні. Пачатак руху ў 09:20 ад сярэдняй школы № 1 – аўтадарога Р-63 (да павароту ў вайсковую часць 2044); 10:00 – аўтадарога Р-63 да Жупранаў. Агульная адлегласць маршруту – 23 км;

Маршрут № 2 пачнецца ў Ашмянах. Пачатак руху ў 09:40 ад будынка райвыканкама – аўтадарога Р-63 да Кракаўкі ¬ –аўтадарога Р-63 да Жупранаў 10. Агульная адлегласць – 12 км;

Маршрут № 3 з Астраўца. Пачатак руху ў 09:10 ад будынка райвыканкама Ізабелін – Дайлідкі – Тракелі – станцыя Ашмяны – Баранцы – Жупраны. Агульная адлегласць - 25 км;

Маршрут № 4 (камбінаваны). Пераезд цягніком "Мінск – Гудагай" ад станцыі Маладзечна (08:27 час адпраўлення) – праз станцыю Смаргонь (09:17 адпраўленне) – да станцыі Ашмяны (прыбыццё 09:54), далей адпраўленне ў 10.25 арганізаванай велакалонай па маршруце: станцыя Ашмяны – Баранцы ¬– Жупраны.

Да ўдзелу ў "KARAOKE на паляне" запрашаюцца ўсе жадаючыя, якія выконваюць песні ў караоке і падтрымліваюць прынцыпы і каштоўнасці руху самадзейнай, патрыятычнай, ваеннай, турыстычнай і іншай песні.

Агульны збор усіх удзельнікаў велапрабегу адбудзецца ў Жупранах ў 11:00 на пляцоўцы насупраць будынку сельсавета. Там запланаваны велафлэшмоб. Далей удзельнікі адправяцца ў Замасцяны, дзе іх чакае забаўляльная праграма (канцэрт, спартыўныя конкурсы, віктарыны), палявая кухня, а таксама латарэя з розыгрышам каштоўнага прыза – ровара!

У месцы правядзення "KARAOKE на паляне" будуць працаваць дзве канцэртныя пляцоўкі, пікніковая зона, зона прыёму ежы, месца для фатаграфавання, альтанкі для асобных кампаній.

**Аддзел ідэалагічнай работы Смаргонскай памежнай групы.**



Фота Ніны ШЧАРБАЦЭВІЧ.

Актыўная раварыстка з Маладзечна Аляксандра Парахня.

● НАВІНЫ

## "Смаргонь" перамагла "Оршу"

**СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА**

Чарговы матч дзевятнаццатага тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" правяла 26 жніўня ў Оршы. Першы гол у матчы здарыўся на 45-й хвіліне. **Уладзіслаў Яцкевіч** на лініі штрафной выйграў барацьбу за мяч у гульца гаспадароў, абыграў яшчэ аднаго і прыгожым ударам укалаціў мяч у вароты. А ў пачатку другога тайма змогу забілі смаргонцы: гол на рахунку **Уладзіміра Казко**. У выніку перамога "Смаргоні" з лікам 2:0.

Уладзіслава Яцкевіча заўзятары "Смаргоні" прызналі лепшым гульцом сваёй каманды ў матчы. Запомніўся ён яшчэ і танцам, якім адзначыў гол

– Як адсвяткаваў гол?

– Танец станцаваў, праўда мне яго не далі станцаваць да канца У мяне свой стыль танца, вось хачу ў "Танцы на ТНТ" пайсці, але Мігель не бярэ :), – прыводзіць словы футбаліста афіцыйны сайт клуба.

"Смаргонь" займае чатырнаццатае месца з шаснаццаці камандаў.

## Ашмянская каманда зноў ўчыніла разгром

**АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА**

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў другой лізе згулялі матчы семнаццатага тура. Футбольны клуб "Ашмяны-БДУФК" ізноў атрымаў буйную перамогу. Каманда ў Ашмянах 26 жніўня разграміла "СМІаўтатранс" са Смалявіцкага раёна 7:0. Прычы, усе галы уляцелі у вароты гасцей за паўгадзіну гульнявога часу. Чатыры галы забіў **Януш Ладуцька**, два – **Дзмітры Купнеўскі**, і адзін – **Вадзім Міхалевіч**.

"Чысць" перамагла моцную каманду "Вікторыю" з Мар'інай Горкі 3:0. Першы тайм завяршыўся з лікам 1:0. Гол у пачатку матчу забіў **Дзяніс Казючыц**. У другім тайме гаспадары вызначыліся яшчэ двойчы: галы на рахунку **Алексея Кашэўскага** і **Аляксандра Працкевіча**.

"Маладзечна-ДЮСШ 4" гуляла ў гасцях з суседам па турнірнай табліцы: "Спадарожнікам" з Рэчыцы. У выніку – нулявая нічыя.

"Чысць" замацавалася на другім месцы. Адрыў ад лідара, "ЮАС" з Жыткавічаў, скалаце тры ачкі. "Маладзечна-ДЮСШ 4" ідзе пятым, "Ашмяны-БДУФК" – сёмым.

## У смаргонцаў – футбольная сям'я

**СМАРГОНЬ**

У Мінску 26 жніўня прайшоў фінал рэспубліканскага фестывалю "Тата, мама, я – футбольная сям'я!". Праводзіцца ён па ініцыятыве Беларускай федэрацыі футбола.

Адразу у кожнай з абласцей праходзілі рэгіянальныя этапы, дзе вызначылі 10 сем'яў ад кожнай вобласці і Мінска. Да ўдзелу ў фінальных гульнях далучыліся сям'і, якія сталі ўдзельнікамі леташняга падобнага фестывалю.

Перамагла сям'я Кісялёвых з Мінска. Трэцяе месца заняла сям'я трэнера футбольнага клуба "Смаргонь" **Уладзіміра Кухлея**. Усім удзельнікам уручылі падарункі ад арганізатараў і партнёраў фестывалю.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота vk.com/fcsmorgon

Сям'я трэнера Уладзіміра Кухлея.



Сям'я Уладзіміра Кухлея.



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Яго храмам лічылі прыроду, таму месцы яго пакланення будавалі без даху, каб ён быў бліжэй да чалавека. Менавіта ў яго Папа Рымскі пазычыў сякеру з двума лязамі як сімвал вярхоўнай улады.
4. Травяністая лекавая расліна; святаяннік.
5. Гімнастычнае практыкаванне, якое заключаецца ў пад'ёме цяжару.
7. "Майстэрня" па-лацінску.
10. Працяглая адсутнасць дажджоў летам, якая суправаджаецца моцным перасыханнем глебы і гібеллю раслін.
11. Французскі філосаф Гюй лічыў, што яна "чароўная казачная дзяўчына, у якой пры кожным слове вылятаюць з рота каштоўнасці".
12. Пагадовы запіс гістарычных падзей у старажытныя часы; кніга з такімі запісамі.
13. Паводле біблейскага падання – вялізнае марское страшыдла ці лятаючы дракон.
19. Рэдкая страва з дробных мучных камячкоў, згатаваных на вадзе або малацэ.
20. У Старажытным Рыме – пасол сената пры правіцелях правінцыя; намеснік.
21. Самец сёмгі ў перыяд нерасту.
22. Збудаванне для пад'ёму ўзроўню вады ў рацэ; плаціна, гаць.
24. Вытворчасцю і продажам чаго займаўся намецкі прадпрымальнік, які купіў у Аляксандра Пушкіна словы са сваіх твораў "Ясней за дзень, цямней за ноч".
26. Зваротны рух ствала ці ўсёй гарматы пасля стрэлу.
27. Далонь і пальцы рукі, складзеныя так, каб імі можна было зачэрпнуць або ўтрымаць што-небудзь.
30. Салодкая студзяністая страва, якая гатуецца з фруктова-ягадных сокаў, малака і іншых прадуктаў з дабаўленнем жэлаціну.
32. У нашай краіне іх найбольш грэчаскіх. Значна менш лацінскага, яўрэйскага і славянскага паходжання.
33. Службовец у панскім маёнтку, які кіраваў гаспадаркай.
34. Ускосны падатак на прадметы шырокага спажывання, якія прадпрыемцы ўключаюць у прадажную цану тавару.
37. Што расце без кораня?

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Пры Іване 4 Жахлівым выпусцілі грошы, на якіх выява вершніка з дзідай ў руках. Як назвалі гэтыя грошы?
3. Чым з'яўляецца Фата-маргана, рэдкая складаная аптычная з'ява, якая ўзнікае, калі ў ніжніх слаях атмасферы ўтвараецца некалькі слаёў паветра рознай шчыльнасці. У выніку з'явы аб'екты даюць каля гарызонта некалькі скажонных выяў, якія часткова накладваюцца адно на другое, хутка мяняюцца ў часе.
4. Знак, метка, зробленая сякерай, нажом.
6. У старажытнарымскай міфалогіі – душы памёршых.
8. Вугал, які ўтвараецца ўзятым напрамкам руху і напрамкам на поўнач.
9. Вынік рашэння матэматычнай задачы, прыкладу.
14. Сталіца Йемена.
15. Месца, дзе ляжаць, хаваюцца гуртамі дзікія жывёлы.
16. Вёска ў Мядзельскім раёне на рацэ Малінаўцы, размешчаная недалёка ад Нарачы. У ёй захавалася драўляная касцёльная званіца 18 стагоддзя.
17. Пімен Панчанка: "Кажуць, мова мая аджывае Век свой ціхі: ёй знікнуць пара. Для мяне ж яна вечна жывая. Як раса, як …, як зара.
18. Сукупнасць навакольных умоў; акружэнне.
20. Навука аб законах і формах мыслення.
23. Як "новы горад" перакладаюцца наступныя гарады: Нью-Ёрк, Непаль, Нэйнбург, Вільнеў, Вамланаў. Назавіце яшчэ адзін, які знаходзіўся ў аднаіменнай фінікійскай сталіцы. Паводле легенды, горад заснавала царыца Дыдона, якая купіла ў мясцовых столькі зямлі, колькі пакрые бычыная скура. Яна разрэзала скуру на вузкія рамяні і , зрабіўшы з іх кола, завалодала вялікім участкам.
25. Першы стварылі ў фларэнцыйскім кляштары Сан Марко ў 16 стагоддзі. Лічыцца, што яго зрабілі з дрэва для больш эфектыўнага роспісу фігуры анёла. Значна пазней заўважылі, што ў крамах, дзе выкарыстоўваюць гэты прадмет, гандаль ідзе значна лепш.
28. Няшчасце, зло, бяда; гора.
29. Негустое, скразное вязанне, вышыванне, разьба.
31. Абяцанне, клятва не рабіць чаго-небудзь.
35. Сшытак або кніга з чыстымі лістамі для вершаў, песень, малюнкаў, фатаграфіі, паштовак.
36. Якім прадметам зацікавіўся асветнік Анджэй Снядэцкі, пахаваны ў Ашмянскім раёне, падчас навучэння ў прафесара Джозэфа Блэка.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №33. Па гарызанталі.

1. кераміка. 5. пакаленне. 7. стругач. 8. камандзірчык. 10. бранзалет. 11. клець. 12. плаўнік. 13. вернасць. 15. каханоўскі. 17. мястэчка. 22. спас. 23. абаранкі. 24. маці. 26. вястун. 28. муміё. 29. кафля.

**Па вертыкалі.** 2. аркуш. 3. фіфа. 4. локшына. 6. каптан. 9. збіцень. 11. качар. 14. келіх. 16. луска. 18. ракаў. 19. каюк. 20. гута. 21. арэлі. 23. арцімовіч. 25. хіцін. 27. сячкарня. 28. мянтуз. 30. мядзведзь.

## ГАРАСКОП 1-8 ВЕРАСНЯ



**АВЕН.** Для вас цяпер час эмацыйнага піку, калі разважлівасць бывае лішкам і жыццё б'е ключом. Вы смела можаце сказаць: "Вось гэта пашанцавала". А яшчэ, калі вы хочаце жыць у шчасці, больш давярайце партнёру. Гэта датычыцца як працы, так і асабістага жыцця.



**ЦЯЛЕЦ.** Прыступайце да рэалізацыі даўно задуманых планаў, падпісвайце новыя кантракты, не забывайце і пра старыя справы. Час, як ніколі раней, спрыяе ўвасабленню ў жыццё вашых задум, на першы погляд, самых дзёрзкіх. Будуць перапады настрою, але пастарайцеся знайсці ўнутраны баланс. Інакш рызыкуеце сапсаваць адносіны з калегамі і сям'ёй.



**БЛІЗНЯТЫ.** Не прыбядняйцеся – энергія віруе, прычым ва ўсіх кірунках. Час увасабляць на практыцы запаветную мару, у вас усё атрымаецца. А яшчэ дзякуючы ўдачнаму збегу акалічнасцяў і працы ўдасца завяршыць нейкі маштабны праект, які прынясе грошы і маральнае задавальненне.



**РАК.** Звярніце ўвагу на дзяцей. Не дазваляйце ім глядзець фільмы, якія правакуюць начныя кашмары. Самі час ад часу пазбаўляйцеся ад непатрэбнага, гэта дасць вам прастору для паступлення новай энергіі.



**ЛЕЎ.** Не давярайце без праверкі фактам і лічбам: калі інтуіцыя пярэчыць прынцыпу, здавалася б, відавочнага рашэння, то тут нешта не так, і да яе варта прыслухацца. І старайцеся як мага менш даваць парадаў дзецям. Ім цяпер лепш дапамагаць, чым вучыць, як жыць.



**ДЗЕВА.** Не сумнявайцеся ва ўласных сілах, асабліва калі недаверлівасць ужо не адзін раз падводзіла вас. Паверце: вы зможаце ўвасобіць у жыццё ўсе свае задумы. Не настойвайце на сваім у спрэчцы з каханым чалавекам. Уступіце цяпер, і ўдзячнасць партнёра апраўдае вашы чаканні.



**ШАЛІ.** Не ўступайце на працы ў канфлікты з калегамі, бо ў чымсьці яны, можа, і маюць рацыю. Падумайце, ці так неабходныя цвёрдыя і нязменныя прынцыпы -- можа, часам варта адступіць ад правілаў і зрабіць выключэнне.



**СКАРПІЁН.** З-за несупадзення інтарэсаў узнікне расчараванне ў людзях, якім вы давяралі. Не спяшайцеся шукаць замену таму, што, па вашым меркаванні, не адбылося. З тымі ж партнёрамі перад вамі могуць паўстаць іншыя мэты і задачы. Асвойвайце нешта новае і карыснае для сябе, павышайце ўзровень прафесійных ведаў.



**СТРАЛЕЦ.** Перыяд будзе поўны цікавых і нават загадкавых сустрэч і запомніцца надоўга. І старайцеся неператамляцца.



**КАЗЯРОГ.** З'явіцца магчымасць кіраваць сітуацыяй і нават уплываць на будучыя падзеі. Не карыстайцеся толькі цвёрдымі і безапеляцыйнымі інтанацыямі.



**ВАДАЛЕЙ.** Гасіце ўспышкі нецярпення і незадавальнення і накіроўвайце свае намаганні на пераадоленне праблем, а ў быце трацьце лішкі энергіі на генеральныя ўборкі.



**РЫБЫ.** Вы будзеце цяпер самым шчаслівым знакам задыяка. Усе пытанні будзеце вырашаць проста "на ляту". І памятайце: самы верны сродак заваяваць любоў іншых – гэта падарыць ім сваю любоў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | 2 | |
| | | 9 | | 5 | | | | |
| | 7 | | 2 | 8 | | | | 6 |
| | 3 | | 5 | | 6 | 7 | | |
| 4 | | | | | | | | 8 |
| | | 5 | 4 | | 8 | | 9 | |
| 9 | | | | 6 | 7 | | 8 | |
| | | | | 1 | | 6 | | |
| | 5 | | 9 | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015


● НАДВОР'Е

## 2 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +11 / +20 | | +13 / +19 | | +13 / +15 | | +15 / +21 | |
| | 741 | ↑ 3 | 738 | ↖ 3 | 738 | ← 2 | 740 | ← 9 |
| Вільня | +13 / +19 | | +14 / +18 | | +14 / +15 | | +13 / +18 | |
| | 747 | ↑ 1 | 745 | ← 2 | 743 | ← 6 | 747 | ↙ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.23
Захад 20.00
Даўжыня дня 12.37

Усход 18.13
Захад 1.52
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +2,7 °C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +28,5 °C у 1963 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 25,7 мм у 1978 годзе
Паводле meteoinfo.by

● АНОНС

## Запрашаем на салодкае шахматнае свята

МАЛАДЗЕЧНА

"Рэгіянальная газета" разам з шахматыстамі **Віталём Качатковым** і **Віктарам Акотчыкам** запрашаюць правесці час за навучаннем самай інтэлектуальнай гульні.

Віталь Качаткоў ужо некалькі месяцаў распавядае на старонках "РГ" пра тонкасці шахматнай гульні, а таксама тлумачыць прыклады задач са сваёй кнігі "Мат у адзін ход". А цяпер спрычыніўся да арганізацыі свята, якое стане выдатным шанцам паспрабаваць свае веды на справе, з дасведчанымі шахматыстамі. Удзельнічаць будзе цікава і дзецям, і дарослым, прыходзіць можна нават сем'ямі.

На шахматным свяце вас чакае:

- захапляльны аповед пра гісторыю шахмат,
- з чаго пачаць гуляць? Асноўныя законы,
- як пачаць выйграваць? Сакрэты майстра,
- магчымасць пагуляць з іншымі ўдзельнікамі свята і з майстрам спорту Беларусі па шахматах Віталём Качатковым.


Фота facebook.com.

Віталь Качаткоў – аўтар шахматнай рубрыкі ў "РГ", кнігі задач па шахматах "Мат у адзін ход" і адзін з арганізатараў суботняга свята.

Удзельнікаў розыгрышаў у межах рубрыкі "Шахматы з Віталём Качатковым" чакаюць падарункі, салодкае частаванне чакае ўсіх гасцей.

Пачатак свята ў 12 гадзін у суботу, 2 верасня. Яно адбудзецца ў шахматным клубе ў Маладзечне, вуліца Забейды-Суміцкага, 2 (недалёка ад музкаледжа).

Шахматы – гэта гульня, якая захоплівае і дапамагае зусім па-іншаму паглядзець на свет.

> "Нішто так не развівае логіку, як гэта гульня. У іерархіі барацьбы шахматы заўсёды на вышыні. Паверце мне, бацьку траіх дзяцей, што вучыць дзяцей шахматам – адзін з найважнейшых унёскаў у пасняховую будучыню сына ці дачкі" – Віталь Качаткоў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Чытайце праз тыдзень:

Маладзечанская паэтка Таццяна Атрошанка "з галавой" сышла ў шоў-бізнэс. Цяпер у яе новая песня, новы кліп і новы творчы псеўданім. А які, чытайце ў наступным нумары.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Учора навучыў жонку гуляць у "Танкі". Тры гадзіны выбірала знешнасць і прозвішчы танкістаў.

***

– Што ў цябе з тварам?
– Учора хадзіў у трэнажорную залу, хацеў палепшыць фізічную форму.
– Прычым тут трэнажорная зала? Я цябе пра твар пытаюся. Што з тварам?
– Дык у гэтай зале у аднаго качка учора гіра звалілася.
– Табе на твар?
– Не. Яму на нагу.
– А твар?
– А мой твар вырашыў з гэтага пасмяяцца.

***

Прывыкла заўсёды запісваць свае выдаткі: транспарт – 20 рублёў, прадукты – 50 рублёў, не памятаю куды – 600 рублёў.

***

Ніколі не камплексавала з-за свайго ўзросту. Але сёння мой добры сын спытаў:
– Мам, а калі Ленін памёр, ты плакала?
– Ага! Як дыназаўры вымерлі, таксама рыдала.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якія вашы любімыя беларускія радкі?



**Марыя Шэбанец, прадпрымальніца і паэтэса, Маладзечна:**
– "А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, –
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна"...



**Маргарыта Шытыка, намесніца дырэктара па творчай рабоце ЦКС, Маладзечна:**
– "Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы, нельга ні ўджаліць, ні забіць."



**Сяргей Уладыка, спецыяліст па рэкламе, Маладзечна:**
– Знічка коціцца агністаю слязой,
Прашумела мякка скрыдламі сава;
Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расце трава.



**Ігар Кіцікаў, дырэктар каледжа, Вілейка:**
– "Будзем вучыцца, пакуль сьмерць лучыцца..."



**Юлія Мароз, выкладчыца англійскай мовы, каардынатар праекта "Жывая бібліятэка" ў Маладзечне:**
– "На чорным я малюю кветкі
Каардынную рух шырот
Вісяць на сметніку шкарпэткі
Напэўна хутка Новы Год".



**Лена Якавіта, медсястра, Мядзел:**
– "Мой родны кут, як ты мне мілы."



**Вольга Жарская, фатограф, Маладзечна:**
– Пасля пытання ўспомніла, што калі чытала "Рэгіяналку" па газетах, то пастаянна на вочы траплялa рубрыка "як зварыш, так і з'ясі". Здаецца, актуальна было для кулінарыі, але прымяняю гэта і ў жыцці пры прыняцці нейкіх рашэнняў.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№35 (1166) 1.09.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 820. Падпісана ў друк у 9.00 31.08.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.